
Старшыня Мясніковіч ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Юбілей «Званкоў» ➔8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 08 (3276) Год LXIV Беласток, 24 лютага 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Кніжка, якая дапамагае верыць у лепшую Беларусь

**Неапублікаваная спадчына Ларысы Геніюш урэшце ўбачыла свет. Менавіта на Падляшшы ў беластоцкім «Склепе з культурай» прайшла прэм'ера кніжкі Глеба Лабадзенкі «Унукам» — вершы і лісты пісьменніцы без цэнзуры. Гэта 52 неапублікаваныя дагэтуль вершы і 39 тых, з якіх знялі цэнзуру. Кніжка не толькі разбуджвае дзіцячае ўяўленне, але таксама вучыць як малодшых, так і старэйшых чытачоў верыць і марыць. Бо паэтэса верыла і марыла аб Беларусі.**


Мікола Ваўранюк (злева), Міхась Геніюш, Глеб Лабадзенка

## Метадычны дапаможнік

Першая прамоцыя кніжкі з неапублікаванымі вершамі выдатнай пісьменніцы прайшла 14 лютага ў беластоцкай Пачатковай школе № 4 у Беластоку. На думку настаўніцы беларускай мовы Аліны Ваўранюк, выдадзеныя вершы актуальныя і ўніверсальныя.

— Можна чытаць гэтыя вершы і дзецям дашкольнікам, і старэйшым. Ведаю, бо я чытала яшчэ гэтыя з цэнзураю, — сказала Аліна Ваўранюк.

Зусім інакш сітуацыя выглядае ў школах у Беларусі. У 1990-х гадах паэзія Ларысы Геніюш была ў школьнай праграме па беларускай літаратуры, але праз пару гадоў яе творы зніклі са школьных падручнікаў. Нягледзячы на шматлікія просьбы грамадскасці, Ларыса Геніюш да гэтага часу не рэабілітаваная.

— Гэтая сустрэча для мяне вельмі важная, для душы. Яна патрэбная падляшскім беларусам у барацьбе за сваё. У мяне трое дзяцей і я купіў тры кніжкі, таму што цяперашні свет, які нас акружае, гэта свет інтэрнэту і польскай мовы, — сказаў прысутны на сустрэчы Яраслаў Станкевіч. — Я сам бачу, калі ў хаце гавару пра гісторыю, пра складаныя часы, якія калісь былі, як мы прападаем, што відаць па перапісах насельніцтва. Я дзяцей вучу, што мы тут жывём здаўна, бо тут нарадзіліся, гэта наш край, малы беларускі куток і такія людзі як Ларыса Геніюш паказваюць, што трэба біцца да канца, бо ў будучыні ўсё яшчэ можа памяняцца.

У кніжцы «Унукам» змешчаны прыгожыя карцінкі, размаляваныя рукой Ларысы Геніюш. Некаторыя раней апублікаваны былі з календарам тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва» у 2010 годзе.

— Міхась спачатку прапанаваў ідэю выцягнуць малюнкі з лістоў і вершы, праілюстраваныя малюнкамі. Але ж я ўжо і лісты прачытаў і сказаў: «Міхась, гэтыя лісты трэба выцягваць бацькам, дзядулям, бабулям і паказваць як выхоўваць дзяцей, унукаў», — сказаў у час прэзентацыі кніжкі Глеб Лабадзенка. — Да лістоў далучаных было шмат вершаў і большасць з іх ніколі не друкавалася. Многа з іх цэнзуру не праходзілі, таму што там пэўныя алегорыі зразумелыя ў тыя часы былі. Кніжка з'яўляецца метадычным дапаможнікам юным бацькам і дзядулям з бабулямі. Ларыса Геніюш дыстанцыйна выхоўвала ўнукаў так як лічыла правільным і гэты стандарт для мяне таксама абсалютна прымальны.

Беластоцкая школа стала першым месцам, дзе прэзэнтавалі кніжку, што было важным фактам самому ўнуку пісьменніцы.

— Кніга выйшла ў Беларусі таму, што тут не было проста каму яе выдаць. Але тут ёсць таксама асяроддзе беларусаў і я тут жыву са сваім братам, з сям'ёй, — сказаў Міхась Геніюш у час прэзентацыі кніжкі ў Беластоку. — Таму цешуся, што і беларусы, якія жывуць на Падляшшы, першымі маглі бліжэй пазнаёміцца з дзіцячай творчасцю Ларысы Геніюш. Многа яе кніжак выходзіла ў Беластоку, у Польшчы — людзі яе чытаюць. Вёска, у якой я жыву, гутарыць на нашай мове. Думаю, што гэта важная справа, каб дзеці, якія вучацца беларускай мове, маглі мець кантакт з такой літаратурай.

## Творчыя кантакты завязваюцца ў Зэльве

Ларыса Геніюш была перш за ўсё пісьменніцай, але таксама сакратаром Урада БНР, вязнем ГУЛАГу, жыхаркай Зэльвы з паметкай у пашпарце «без грамадзянства». Паэтка засталася ўзорам духоўнай трываласці для многіх беларусаў. Пісаць вершы пачала яшчэ падчас вучобы ў гімназіі. У 1939 годзе пачала друкавацца ў беларускіх перыядычных выданнях. А праз тры гады, у чэшскай Празе, свет пабачыў яе першы зборнік паэзіі «Ад родных ніў». Большасць твораў Ларысы Геніюш былі выдадзены пасля яе смерці. Дарэчы, памерла Ларыса Антонаўна грамадзянкай Чэхаславаччыны, так і не прыняўшы савецкага грамадзянства.

— Мне прыгадваецца бабуля, калі гляджу на гэтую кніжку, таму што я лічыў сваім абавязкам такую кніжку выдаць, — сказаў у «Склепе з культурай» Міхась Геніюш. — Гэтая кніжка — тое, што я і чакаў. Глеб даў ёй такую форму і так яе выдаў, што я з вялікай радасцю ўспрыняў кніжку і вельмі цешуся, што звярнуўся менавіта да яго, а не да кагосьці іншага.

«Казкі для Міхаські» і «Добрай раніцы Алесь» — дзве дзіцячыя кніжкі, якія выйшлі пры жыцці Ларысы Геніюш. Фонд Ларысы Геніюш, які захоўваецца ў Беларусі, змяшчае больш за тысячу дакументаў. Высветлілася, што ўсе дзіцячыя вершы яна складала ў асобныя папкі або запісвала ў адзін агульны сшытак. «Добрай раніцы Алесь» захаваўся ў машынапіснай форме, а надрукавалі толькі чацвёртую частку. Менавіта Зэльва стала месцам, якое паспрыяла творчым размовам і канцэпцыі выдання зусім іншай кніжкі з дзіцячымі вершамі паэтэсы.

— Дзесяць гадоў таму я сустрэўся з Глебам на стагоддзі з дня нараджэння Ларысы Геніюш, — успамінае ўнук пісьменніцы, Міхась Геніюш. — Я пабачыў у ім такую маладую новую зорку беларускай журналістыкі. Вельмі мне спадабалася яго інтэлігенцыя і погляд на літаратуру і спосаб выдавання кніжак. Таму менавіта я звярнуўся да яго і атрымалася нам файная справа.

Глеб Лабадзенка гэта журналіст, стваральнік папулярнага адукацыйнага праекта «Мова нанова» — сёння курсы дзейнічаюць у дзесяці гарадах Беларусі і маюць больш за 600 слухачоў. Лабадзенка вядзе на «Белсаце» ток-шоў «Кожны з нас». Да гэтага выдае кніжкі.

— Лісты, дакладна, раней не бачылі свету, таму што Міхась ставіўся да іх вельмі прыватна і дзякуй яму за гэта, што ён адважыўся лісты надрукаваць, таму што гэта лісты сямейныя, — сказаў Глеб Лабадзенка. — Яна ў адрозненні ад вершаў пісала іх не дзеля таго, каб шырокая публіка іх прачытала. Але сёння, пасля пяцідзесяці гадоў з часу напісання лістоў, яны выглядаюць вельмі класна.

## Такія моманты трэба святкаваць

У кніжцы «Унукам» змешчаны неапублікаваныя дагэтуль вершы, вершы з цэнзурай і без — для параўнання. Да гэтага малюнкі, лісты — усё гэта, хаця стваралася паўстагоддзя таму, вельмі актуальнае.

— Калі чытаю верш пра казулю, мядзведзя з чорнымі лапамі і салодкім мёдам чамусьці мне прыходзяць у галаву нейкія абсалютна сучасныя параўнанні, — сказаў Лабадзенка. — Калі кажуць, што некаторыя паэты — прарокі то гэта якраз той выпадак, які праз 50 гадоў не страціў свайго актуальнага гучання.

Глеб Лабадзенка дадаў, што вельмі хацеў, каб прамоцыя кніжкі адбылася толькі з удзелам Міхася. Прэзентацыі прайшлі ўжо на Падляшшы і ў Гародні. Неўзабаве кніжку запрэзентуюць мінчукам.

— Ларыса Геніюш паходзіла з гэтага рэгіёна. Сёння рэгіён раздзелены мяжой, але ўсё-такі гэта адзін рэгіён. І многія словы, якіх мы, канешне ж, не выпраўлялі, гэта словы якраз, я так разумею, з падляшскіх гаворак, — сказаў Глеб Лабадзенка. — Яна была вельмі шчыльна павязаная з Беластокам, хаця Міхась нарадзіўся ў Зэльве. Але ён усё свядомае жыццё пражыў у Беластоку, тут ён жыў са сваёй сям'ёй, тут адзін раз яна да іх прыязджала. Канешне, гэта аповесць, якая нарэшце замкнулася і давяла да стварэння вось гэтай кнігі.

Постаць Ларысы Геніюш аб'ядноўвае беларусаў Падляшша і Беларусі, бо ўсе могуць у яе павучыцца як змагацца з неспрыяльнымі ўмовамі ў захаванні сваёй культуры і тоеснасці.

— Нам, беларусам Падляшша, таксама трэба весці сваю барацьбу і мы гэта робім. Хто б чаго не гаварыў, у нас карані кожнага трэцяга чалавека на Падляшшы беларускія, — сказаў Яраслаў Станкевіч. — А што дайшло да таго, да чаго дайшло, дык так часам бывае. Самае важнае, каб частка з нас не забыла хто мы. Вядома, трэба працаваць, а такія сустрэчы, на якіх успамінаюць выдатных беларусаў, гавораць пра сваю культуру, маюць вялікае значэнне. Трэба хаця б такія моманты святкаваць.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**





# Хмурныя людзі

У шматлікіх інтэрнэтава-газетных водгуках турыстаў і наведнікаў нашай краіны пра Беларусь пішуць рознае. Многія кажуць пра чыстыя вуліцы беларускіх гарадоў, пішуць пра добрыя дарогі ў параўнанні з суседнімі дзяржавамі. Некаторыя захапляюцца нашай старажытнай архітэктурай, іншыя наракаюць на неразвітасць сервісу ў розных сферах. Але амаль усе аднадушна заўважаюць і адзначаюць хмурыя і панылыя твары насельнікаў гэтай зямлі. Жыхары беларускіх гарадоў і мястэчак вельмі мала жартуюць і амаль не ўсміхаюцца — сваім, іншым, навакольнаму свету, жыццю ўвогуле.

Можа людзі тут хмурыя і сумныя ад таго, што ў Беларусі зусім мала сонца? Адна карэянка ў сваіх падарожных допісах-уражаннях беспрастанку здзіўлялася, як так можа быць у гэтай краіне, каб сонца так рэдка выглядвала з-за хмар і асвятляла гэтую вялікую паўзмрочную прастору. Нездарма, відаць, яшчэ больш ста гадоў таму нашы папярэднікі адным са сваіх дэвізаў абралі сакраментальную прымаўку „Загляне сонца і ў наша ваконца". Сённяшнія метэаролагі-навукоўцы нават падлічылі колькі ў сярэднім у год сонечных дзён прыпадае на Беларусь. Выявілася, што не так шмат. А самым сонечным у краіне з'яўляецца горад з мілагучнай назвай Брагін — у ім сярэдне 35 сонечных дзён у год. Толькі 35 з 365-ці! Праўда, тыя ж метэаролагі сцвярджаюць, што гэта не так і мала, у іх нейкія свае крытэрыі ацэнак. Але фізічныя і псіхалагічныя адчуванні звычайнага чалавека такія, што крытычна мала. Нездарма спрытныя рэкламшчыкі карыстаюцца такім станам прыроды і зазываюць кліентаў у свае салярыі. Напэўна гэтае штучнае апраменьванне карыстаецца поспехам.

Адкуль жа прыйшлі гэтыя суцэльныя чорныя хмары. Можа з паўночнай халоднай і сівернай Балтыі? А можа з заходу, адкуль не раз у кірунку нашай зямлі грукаталі ваенныя калясніцы? А можа з дзікага ўсходу, з застыўшай у сярэднявеччы Масковіі, якая ўжо пяцьсот гадоў імкнецца знішчыць наша Княства, а зараз канчаткова дабіць ужо ягоныя рэшткі? А можа яна прыйшла з поўдня: з якога Чорнага мора, ці нават Міжземнага? Падобна як у класіка неўміручага рамана: цемра, прыйшоўшая з Міжземнага мора, накрыла непатрэбную ўсім сінявокую рэспубліку...

Днямі сустрэў аднаго даўняга прыяцеля. Ён расказаў, што ўжо гадоў шэсць як пераехаў у іншы мікраён у новую кватэру. Здзіўляўся сваім суседзям: кажа, што палова людзей, якія жывуць у пад'ездзе, нават не вітаюцца з ім, хоць ён ад першага дня пераезду стараўся выявіць зычлівасць і пасябраваць з усімі. Казаў таксама, што нават не ведае як завуць бліжэйшых суседзяў па лесвічнай пляцоўцы, настолькі яны пазбягаюць усялякіх кантактаў і размоў. Засталося суцяшаць яго тым, што куды лепш увогуле не ведаць суседзяў, чым штодзённа з імі сварыцца.

А можа ўся прычына ў той сацыяльнай напружанасці, якая вісіць у грамадстве. У тым стане зняважаных і прыніжаных, бяспраўных і безнадзейных людзей. Людзей, якім не пакідаюць аніякага выбару. Дакладней, выбар яшчэ ёсць — альбо вы выязджаеце адсюль назаўсёды, альбо застаяцеся існаваць па правілах, якія стварыла дзяржава. Жыць не па Канстытуцыі, не па законах, якія хоць і недасканалыя (справа зусім не ў гэтым), а існаваць менавіта па правілах, якія супярэчаць і Канстытуцыі, і законам гэтай дзяржавы. А гэта значыць існаваць увогуле без правіл. Правіла толькі адно — маўчаць, ціха глытаць усю несправядлівасць наўкола і далей зноў маўкліва прымаць існы стан рэчаў.

За дваццаць пяць гадоў улада зрабіла ўсё, каб пасварыць розныя пласты насельніцтва, густа пасеяць зерне нянавісці, закласці нібы міну запаволенага дзеяння сапраўдны грамадзянскі раскол. Хмурыя твары паўсюдна навокал — гэта толькі першая прыкмета назапашанай адмоўнай энергіі, непрыязнасці, прыхаванага абурэння, злосці да ўсіх і ўсяго.

Але яшчэ са Старога Запавету добра вядома — хто сее вецер, абавязкова пажне буру...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Туалетнікі, іначай палітыкі

Калі палітык скажа ўсё, што ён меў сказаць (і, як правіла, мае мала што цікавага сказаць), ён пачынае ліць праславутую ваду. Для яшчэ лепшага эфекту падфарбаваную. Пустаслоўе, інакш «ліццё вады», асацыюецца з падобнай функцыяй — непрадуктыўнага з-за непраходнасці спалоскавання туалета. А калі ўжо гаворка пра вельмі карысную прыладу, належыць згадаць паперу. Вядома, туалетную. Кітайцы вынайшлі яе амаль паралельна з паперай — той для ўвекавечання ўсялякіх думак і ўвогуле Чалавечых Ведаў. Абодва віды маюць вось агульную гісторыю, хоць, магчыма, трохі дзіўна, што яна спалучае ў сабе гэтак аддаленыя бакі чалавечай дзейнасці. Але гэта не першы выпадак у гісторыі чалавецтва, калі канец і пачатак абмяняюцца адзін з адным свабодна, як той абвесцішам Фрэнсісам Фукуямай «канец гісторыі» з надыходам глабальнага папулізму, які цяпер узяў на спін зямны шар.

Вяртаючыся да туалетнай паперы, дык колькі яе было выкарыстана ў Сочы, дзе нядаўна праводзілася шматдзённая сустрэча прэзідэнтаў Расіі і Беларусі, падлягаючая строгай дзяржаўнай тайне. Нам мусіць быць дастаткова ведаў распаўсюджаных на газетнай паперы аб гекталітрах пралітай там абодвума прэзідэнтамі вады. Аж дзіўна, што з яе відным лішкам справілася мясцовая каналізацыя. Гэта там златавусны бруёй лінуў Уладзімір Пуцін, заявіўшы, што «цалкам незалежныя дзяржавы ў свеце не існуюць». Як ставіцца да яго слоў беларусы — як да брацкага суцяшэння? Што быццам бы няма чаго рваць на сабе адзення, таму што ніхто не хоча адымаць ім індывідуальнай свабоды, толькі суверэнную дзяржаўнасць! Дазвольце мне нагадаць вам, што ёсць два словы, якія ў цяперашні час на рускай мове тлумачыць паняцце „свабода" — *свобода* і *воля*. Адно азначае свабоду палітычных памкненняў. Другое — свабоду асабістых імкненняў. Для мяне расшчапленне гэтых паняццяў — вераломнае. Для палітыка Пуціна — зразумелае. Яраслаў Качынскі дакінуў бы верагодна сваё: „Гэта відавочная відавочнасць!" Пуцінскія словы, аднак, хаваюць ілжывае дно. Ёсць на самой справе дзяржавы «не цалкам залежныя», што тлумачыцца татальнай глабалізацыяй палітыкі і эканомікі, і дзяржавы «цалкам залежныя». Да апошніх належыць Беларусь. Але, каб не было што толькі яна, таксама і Польшча, нягледзячы на фармальную незалежнасць ад еўрапейскай або сусветных узаемазалежнасцей, зусім свабоднай не з'яўляецца і нават не павінна быць. У адваротным выпадку зжэр бы яе расійскі Галадамор, так як ужо зжэр значную частку пакінутай самой сабе Украіны і, вядома, зжарэ самотную ў Еўропе і свеце Беларусь. (Не лічачы Венесуэлы скампраметаванага дыктатара Мадура ці Паўночнай Карэі палітычнага хулігана з варварскай сям'і Кімаў). Тым больш, што Аляксандр Лукашэнка не мае ніякіх праблем з суверэнітэтам, як тлумачыў прадстаўніку расійскага інфармацыйнага агенцтва Інтэрфакс, кажучы: «Мы (гэта значыць, ён і яго 'калега, сябар Пуцін' — прыпіска мая), можам аб'яднацца нават заўтра, у нас няма ніякіх праблем з гэтым. Але ці гатовы да гэтага расіяне і беларусы?» Што наконт рамантычнага мезальянсу думаюць самі расіяне, гэта казка без завяршэння. Пуцінскія прапагандысты толькі што запісваюць яе на цярплівай паперы. У рэшце рэшт, вядома, расійскі народ, як ніхто іншы ў свеце, слепа верыць у напісанае слова. Гэта звязана са шматгадовай традыцыяй абавязковай для ўсіх грамадзян падпіскі колішняй газеты «Правда». Тая газета ўжо даўно абанкруцілася, але пакінула па сабе канцэптуальныя мутацыі ў выглядзе постмадэрністкай «сапраўднай праўды», «самай сапраўднай праўды» ды «адзіна правільнай праўды». Больш за тое, яна да гэтага часу мае інтэрнацыяналістычны абсяг. ПіСаўскія ўлады такім чынам яе разумеюць, дарэчы. Што да беларусаў, то я думаю, што да ісціны як такой і толькі такой маюць яны разумны падыход. У першую чаргу тыя з іх, што пасля 1991 года скінулі з сябе ярмо падпіскі на адзінаправільную праўду. Яны таксама дакладна памятаюць нядаўнія заклінанні свайго прэзідэнта, што Беларусь была, ёсць і застанецца суверэннай да гэтай пары, пакуль яму будзе што сказаць. Яшчэ раз аказалася, што ў дадатак да палівання афарбаванай вадой Аляксандр Лукашэнка не меў, не мае і нічога сказаць больш не зможа за тое, што паўтарае да бясконцасці: „Дзяржава — гэта я!" Ну ж, палітык ...

У Польшчы ў 2005 годзе з'явіўся, у выглядзе рулонаў туалетнай паперы, комікс пра палітыкаў... «Туалетнікі». Можа трэба перавесці яго на беларускую мову?

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# За хлебам з Польшчы

Статыстыка заўсёды прымушае ставіць перад сабою чарговыя пытанні. Калі ў папярэдніх нумарах «Нівы» ў гэтым месцы займаўся я прытокам працоўных з Беларусі і Украіны ў польскую гаспадарку, то натуральным становіцца пытанне: а які эміграцыйны, працоўны адток маем у апошніх гадах з Польшчы? Запатрабаванне ў нас на мільёны рук працы не ўзялося ж з пустога. Значыць, людзі проста надалей з'язджаюць, а не вяртаюцца ў родную краіну, дзе быццам ужо плывуць, паводле некаторых эканамістаў і палітыкаў, малочныя рэкі з кісельнымі берагамі. Вядомым з'яўляецца факт, што менавіта з паўночна-ўсходніх ваяводстваў Польшчы міграцыйны працэс меў свае вялікія памеры. Мой знаёмы з турыстычнага, ужо мазурскага, Гіжыцка так мне тлумачыў заўважныя сацыяльныя расслаенні грамадства ў ягоным горадзе: «Над возерам прычаленая процьма навенькіх яхтаў, вартых сотні тысяч злотых кожная, але ўсе яны не ўласнасць жыхароў нашага горада. Нам зараз не па кішэні купіць не толькі добрую лодку, але нават і байдарку». Ён, мясцовы абарыген, вобразна мне растлумачыў, вядома на рыбным прыкладзе, розніцу паміж сацыялістычнай і капіталістычнай эканомікай. Менавіта ў мінулую эпоху за ўмоўнае паўлітра гарэлкі ў браканьераў можна было набыць вядро свежых, далікатэсных вугроў. Зараз за вядро бутэлек з такім жа самым напіткам можна набыць толькі адну такую нармальную рыбіну. Ён сам, будучы кваліфікаваным друкарам, працуе зараз дальнабойшчыкам, але, нягледзячы на неблагую зарплату па мясцовых мерках, не можа сабе дазволіць купіць сучасны водна-маторны рыштунак. Ягоныя дарослыя дзеці выправіліся за працай і хлебам за мяжу, не хацеўшы так біцца за кожную залатоўку як іхні хваравіты бацька. Таму адно зараз знаходзіцца ў Англіі, а другое ў Нарвегіі. Ён сам у святочна-навагодні перыяд штогод кладзецца ў бальніцу, каб паправіць здароўе і не заставацца самотным як калок у плоце ў час сямейных святаў. Каб не прыцягла ягоная хвароба, то даўно развітаўся б з цудоўна беднымі Мазурамі ў карысць краіны папярэдніх, нямецкіх уласнікаў, — распавядаў ўсхваляваны.

Дарэчы, адна мая знаёмая медсястра заўважае, што менавіта зараз у святочны перыяд бальніцы не пустуюць, толькі запаўняюцца самотнымі, састарэлымі людзьмі, якіх прывозяць проста на дзяжурствы ў шпіталь іхнія дзеці, бо не мае хто імі заняцца ў час сямейнага адпачынку. Таксама бывае так, што пасля вяртання з-за мяжы перад святамі сямейнікі заўважаюць рэзкае пагаршэнне здароўя сваіх бацькоў і тады стараюцца іх знямоглых хутка пакласці ў бальніцу дзеля абследавання. Але шпітальная тэма — гэта тэма-рака і таму вяртаемся ў рэчышча міграцыйных спраў.

Тут зараз нам на дапамогу прыходзіць Галоўная статыстычныя ўправа Польшчы, якая вядзе назіранне за гэтымі працэсамі і паслядоўна робіць іх даступнымі на сваёй інтэрнэт-старонцы. Згодна з вынікамі ў канцы 2017 года па-за межамі Польшчы пражывала часова прыблізна каля 2 мільёнаў 540 тысяч грамадзян нашай краіны, значыць гэта больш на 25 тысяч у параўнанні з 2016 годам. Абсалютная большасць, 2 мільёны 121 тысяча знаходзіцца ў краінах Еўрасаюза. Найбольш польскіх мігрантаў накіравалася ў Вялікабрытанію — 793 тысяч, Нямеччыну — 703 тыс., Нідэрланды — 120 тыс., Ірландыю — 112 тыс. Нягледзячы на палітычны закалот з выхадам Вялікабрытаніі з Еўрасаюза, у 2017 годзе ў параўнанні з 2016 годам праехала там на пяць тысяч больш польскіх грамадзян. У Нямеччыне колькасць палякаў у той жа самы перыяд пабольшала на 16 тысяч, а ў Нідэрландах — на 4 тысячы. Невялікае змяншэнне ліку эмігрантаў з Польшчы адначасна заўважаецца ў Іспаніі, Грэцыі і Італіі. Прытым відавочны рост грамадзян Польшчы, якія пражываюць больш чымсьці тры месяцы ў краінах, якія не з'яўляюцца сябрамі Еўрасаюза. Сярод лідараў безумоўна тут Нарвегія, у якой апынулася 85 нашых суграмадзян. Заўважны рост палякаў зафіксаваны ў Швейцарыі і Ісландыі. Як відаць, замежная валюта яшчэ доўга будзе больш прываблівая і больш прыбытковая, чымсьці польскі грош і злоты на родным панадворку.

Яўген ВАПА

# Старшыня Мяснікові́ч у нас




**У сталіцы**

Старшыня Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч (з 2015 года, у 2010-2014 гг. — прэм'ер-міністр) наведваў Польшчу ад 11 лютага з чатырохдзённым рэвізітам, а на Беласточчыне быў ад 13 лютага. Гэта фармальна другая асоба пасля прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі і адзін з яго самых давераных людзей.

У Варшаве Міхаіл Мясніковіч сустрэўся м.інш. з польскімі прэзідэнтам, прэм'ер-міністрам, маршалкамі Сейма і Сената і кіраўніком МЗС. У рамках сустрэчы падпісана была дамова паміж Польшчай і Беларуссю аб сацыяльным забеспячэнні. З маршалкам Сената Станіславам Карчэўскім, як інфармуе афіцыйнае камюніке, размаўлялі аб супрацоўніцтве Польшчы і Беларусі ў галіне сацыяльнага забеспячэння і аб далейшым развіцці дыялогу і вырашэння спрэчных пытанняў у польска-беларускіх адносінах. «Польшча заўсёды кіруецца прынцыпам пашаны суверэнітэту і тоеснасці Беларусі», — адзначыў міністр замежных спраў Польшчы Яцэк Чапутовіч. Як паведаміў прэс-цэнтр польскага МЗС, галоўнай тэмай сустрэчы былі двухбаковыя стасункі і сітуацыя польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі. Абмяркоўвалася таксама пытанне ладоў Беларусі з Еўрасаюзам, асаблівую ўвагу надзяліўшы еўрасаюзнай праграме «Усходняе партнёрства». Абмяркоўваліся пытанні рэгіянальнай бяспекі і міжнародныя фарматы еўрапейскай архітэктуры бяспекі. Міністр Яцэк Чапутовіч выказаў спадзяванні, што візіт Міхаіла Мясніковіча дасць пачатак новаму погляду на польска-беларускія дачыненні як дзвюх суседніх краін. Пытанні двухбаковага супрацоўніцтва, у тым ліку эканамічных спраў і праблемы польскай меншасці ў Беларусі былі галоўнымі тэмамі пасяджэння з прэм'ер-міністрам Матэушам Маравецкім. Прадстаўнікі апазіцыйнай Грамадзянскай платформы не прынялі ўдзелу ў пасяджэнні. На думку Багдана Кліха, Польшча не павінна гаварыць у сваім парламенце з прадстаўніком улады Аляксандра Лукашэнкі: «Нашай прысутнасцю не будзем легітымізаваць гэтага высокага прадстаўніка рэжыму Аляксандра Лукашэнкі».

**У Беластоку**

У Беластоку старшыня сустрэўся, у прыватнасці, з маршалкам Падляшскага ваяводства Артурам Касіцкім. Гэта быў першы візіт прадстаўніка такога рангу з беларускага парламента ў рэгіёне. Чацвер (14 лютага) быў днём поўным сустрэч. Адной з іх быў візіт у Медыцынскім універсітэце ў Беластоку, дзе м.інш. у суправаджэнні маршалка Сената Польшчы Станіслава Карчэўскага і прадстаўнікоў улад універсітэта старшыня размаўляў аб бягучым супрацоўніцтве паміж беластоцкай вучэльняй і навуковымі цэнтрамі ў Беларусі, але і магчымасцях актывізаваць яго:

— Я вельмі задаволены гэтым візітам. Можна сказаць, што гэта новае адкрыццё для добрага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі. Мы закранулі мноства тэм, тых, якія нас аб'ядноўваюць, і тых, якія дзеляць.

Пасля наведвання палаца Браніцкіх і Музея гісторыі медыцыны і фармацыі старшыня Мясніковіч сустрэўся з падляшскім ваяводам Багданам Пашкоўскім. Быў таксама госцем маршалка Падляшскага ваяводства Артура Касіцкага. У час рабочага абеду дадзенага маршалкам вяліся размовы аб працягу і ўмацаванні міжрэгіянальнага супрацоўніцтва. Старшыня Мясніковіч запрасіў маршалка Касіцкага з афіцыйным візітам у Гродзенскую вобласць.

Пасля поўдня і вечарам свой час знаходжання на Падляшшы старшыня прысвяціў пытанням беларускай меншасці.




**Залешаны — наша памяць і праўда**

На сустрэчы з беларускай дэлегацыяй, якую арганізаваў бургамістр Кляшчэляў, сабралася некалькі дзясяткаў чалавек. За 73 гады пасля трагедыі гэта першая такога высокага рангу дэлегацыя, якая наведала Залешаны. Кажа прысутны на сустрэчы Марыюш Нічыпарук:

— Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі стаў на калена і пакланіўся перад крыжам, які ўсталяваны ў памяць пра ахвяр у Залешанах. Пазней была кароткая малітва, у якой бралі ўдзел тры бацюшкі з Кляшчэляў і сабраныя людзі.

— У ніякім выпадку «Бурага» нельга лічыць героем, — сказаў старшыня, звяртаючыся да жыхароў вёскі, у якой жаўнеры «Бурага» закатавалі 16 людзей беларускай нацыянальнасці і праваслаўнага веравызнання. — Яго салдаты — бандыты. Мне расказваў на сустрэчы прэзідэнт Польшчы спадар Дуда. Казаў, што планаваў наведаць адно з мерапрыемстваў, звязанае з „выклятымі жаўнерамі". Да яго падышла беларуска і расказала, як было сапраўды. Ён абдумаў гэтае пытанне і не прыняў удзелу ў гэтым мерапрыемстве.

Старшыня вечарам 14 лютага ў Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку сустрэўся з прадстаўнікамі беларусаў у Польшчы. Запрашэнні на сустрэчу былі высланы Пасольствам Беларусі ў Польшчы, спіс запрошаных склаў каля 200 чалавек. Прыехалі прадстаўнікі беларускіх асяродзяў з усяго Падляшша, са школ, устаноў, самаўрадаў з мясцовасцей, дзе пражывае беларуская меншасць, дзеячы культуры і навукі. Адным з запрошаных быў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук:

— Мы, як школа, прысутнічаем на сустрэчы, між іншым, таму, што атрымаем строі для нашага танцавальнага гуртка. Спадзяемся, што гэта сустрэча прынясе станоўчы эфект на будучыню.

На сустрэчы таксама прысутнічаў, між іншым, маршалак Артур Касіцкі. Цікавілі яго не толькі культурныя стасункі Беларусі і беларускай меншасці ў Польшчы, але і гандлёва-эканамічная сітуацыя на беларуска-польскім памежжы. Бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі:

— Я думаю, што беларуская дзяржава таксама хацела б ведаць, якія праблемы маюць беларусы, якія пражываюць за яе мяжой. Шкада, што беларусы з Беларусі не маюць цяпер магчымасці атрымаць візу па пакупкі. Такая сітуацыя ўплывае і на бізнес у нас. Людзі едуць купляць, дзе цэны для іх найбольш карысныя».

Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі выступіў з прамовай, падчас якой падкрэсліў, што беларусы Падляшша могуць разлічваць на дапамогу ў розных напрамках ад Беларусі.

**Узнагароды**

Міхаіл Мясніковіч тлумачыў беларускай нацменшасці і гасцям, што сучасная Беларусь — гэта «стабільная, мірная, еўрапейская краіна», «донар стабільнасці і спакою ў Еўропе». Абяцаў падтрымку падляшскім беларусам:

— Мы зацікаўлены ва ўдзеле беларусаў Падляшша ў канструктыўнай, стваральнай працы на карысць шматмільённага беларускага народа. Ваша падтрымка вельмі патрэбна. Беларуская дзяржава са свайго боку будзе дапамагаць беларусам у Польшчы ў захаванні і развіцці беларускасці, традыцый, культуры і мовы.

Падчас сустрэчы, перад канцэртам, адбыўся шэраг адзначэнняў. Сярод адзначаных падзякамі і дыпломамі — старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі і сама арганізацыя БГКТ, сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Валянціна Ласкевіч, дырэктар бельскага Дома культуры Альжбета Фіёнік, старшыня Рады Гайнаўскага павета, былы дырэктар гайнаўскага белліцэя Яўген Сачко, галоўны рэдактар выдання „Przegląd Prawosławny", былы дэпутат польскага Сейма Яўген Чыквін, старшыня Беларускага літаб'яднання „Белавежа" Ян Чыквін, старшыня Фонду імя князя Канстанціна Астрожскага Анна Радзюкевіч, намеснік старшыні БГКТ Васіль Сегень.

**Падарункі і чаканне духоўнай падтрымкі**

Гайнаўскі і Бельскі беларускія ліцэі атрымалі ў падарунку ад Беларусі касцюмы для школьных калектываў. Традыцыйныя жаночыя і мужчынскія кашулі атрымаў Музей малой Айчыны ў Студзіводах. На рукі дырэктара Бельскага белліцэя Андрэя Сцепанюка трапілі прыгожыя строі для яго ліцэістаў:

— Мы заўсёды будзем супрацоўнічаць з беларускім бокам, калі ён будзе даваць нам напрамкі, звязаныя з развіццём беларускай мовы, беларускай культуры і беларускай адукацыі. Мы не чакаем нейкай матэрыяльнай падтрымкі, больш духоўнай. Мы чакаем беларускай Беларусі.

**Падтрымка ў цяжкі час для нас**

Намеснік старшыні Беларускага таварыства Васіль Сегень адзначыў важнасць падтрымкі беларусаў Падляшша ў «напружаны час»:

— Дадатковы голас высокапастаўленага госця з-за мяжы ў абарону беларусаў, якія пражываюць на Падляшшы, з нашага пункту гледжання — вельмі патрэбны. Прыйшлося нам жыць у складаны час. Кожны голас падтрымкі ў наш адрас — істотны і важны. Наш голас пра нашу крыўду не заўсёды чуецца ўладамі. А такі голас на дзяржаўным узроўні можа прынесці для нас станоўчы вынік.

На матэрыяльныя выклікі больш звяртае ўвагу бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі:

— Вельмі важнае — эканамічнае супрацоўніцтва з беларускім бокам. Бачыцца шмат прасторы для гаспадарчых кантактаў у памежным рэгіёне. З кім рабіць бізнес, як не са сваімі суседзямі і братамі?

**Як асвятляць сітуацыю ў Беларусі?**

Журналісты Радыё Рацыя паставілі толькі адно пытанне старшыні Міхаілу Мясніковічу: ці магчымае пасадзейнічанне ў тым, каб журналісты маглі ўехаць у Беларусь, каб пісаць аб краіне і яе справах, мець акрэдытацыю і магчымасць асвятляць падзеі ў Беларусі таксама і для беларусаў Падляшша. Старшыня не ведаў, што існуе такое пытанне. Запрапанаваў, што зоймецца ім і яго разгледзіць.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Вёска драўляная

У Старым Масеве Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ўсе дамы драўляныя. І добра. Гэта пушчанская вёска. Драўляныя дамы ўсярэдзіне найбольш прытульныя. Солтыс Аліна Філіноїч жыве ў хаце з нумарам 49, але яна кажа, што і да гэтага нумара не ўсе дамы абжытыя. ЗАГС у Нараўцы мае зафіксаваных у Старым Масеве 58 жыхароў. Яшчэ два гады таму было 62 чалавекі. Паводле падліку солтыса іх тут 33. Некаторыя маладыя людзі тут толькі прапісаныя, але жывуць у Беластоку і Гайнаўцы або ў іншых гарадах. Працуюць яны і за межамі нашай краіны, між іншым, у Вялікабрытаніі.

Цікава тое, што ў Старым Масеве ўсе дамы драўляныя ды амаль усе з ганачкамі. Ганкаў сямнаццаць, у тым ліку дзевяць з акенцамі. Адна хата абабітая белым сайдынгам. Яна ранейшага ніўскага карэспандэнта Янкі Леўшы. Цяпер ён жыве ў Вялікабрытаніі. Часта тэлефануе да мяне і казаў, што сёлета прыедзе ў сваю родную вёску. На двух панадворках яшчэ ёсць студні з жураўлямі — як подых мінуўшчыны. Зараз пры хатах масеўцы садзяць не пладовыя дрэўцы, як было калісьці, а толькі туі. Солтыс заявіла, што яна пасадзіць каля свайго дома вішні і слівы. Будзе з іх якаясь карысць.

Найпрыгажэй выглядае хата магістра інжынера Міхала Бароўскага, ды не жыве ён у ёй, а ў мураваным доме ў паднараўчанскіх Свінароях. Адсюль спадар Бароўскі да пераходу на пенсію даязджаў на працу ў Гмінную ўправу (быў сакратаром гміны). Яго жонка працуе ў Каапeратыўным банку ў Нараўцы. Са Свінароў у Нараўку рукой падаць. Спадар Міхал паінфармаваў мяне, што ў Старым Масеве ўвагі заслугоўваюць таксама прыгожыя драўляныя дамы Юрыя Плябанскага, Юрыя Томыскага і Анны Тамаровіч. Прасіў прыехаць у лясное сяло летам і зрабіць фотаздымкі іхнім хатам.

## Ужо зрабілі

Быў допіс пад загалоўкам „Патрэбныя дарожныя ўказальнікі" ў трэцім сёлетнім нумары штотыднёвіка „Ніва" ад 20 студзеня г.г. Указальнікі з нумарамі дамоў былі неабходныя на скрыжаванні дарог у лесе Плянта на г.зв. калёніі Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. А гады ішлі ды ішлі.

Пасля майго допісу прыгожыя каляровыя драўляныя ўказальнікі зрабілі і паставілі 6 лютага гэтага года самі жыхары вышэйзгаданай даволі далёкай ад вёскі калёніі над рачулкай Баброўкай Віталь Скепка і Аляксандр Скепка (варта адзначыць — яны шматгадовыя верныя чытачы „Нівы"). Дзякуй вам. Цяпер днём і нават цёмнай ноччу (я даведаўся, што на слупок наклеяць яшчэ святлоўвяртальную тасьму) куды лягчэй трапіць пад нумары 98, 99 і 100 хуткая дапамога, супрацьпажарная каманда або нехта прыезджы і нетутэйшы. Падумаць толькі, як зараз чытачы беларускай роднай газеты падышлі дзейсна да справы і яе паспяхова вырашылі ў хуткім часе. Гэта ж самі для сябе зрабілі і для іншых. Патрэбны быў толькі адзін сігнал-штуршок з боку і ён быў.

## Што ў 2019 годзе?

Ужо шмат гадоў улады Гайнаўкі вялікую ўвагу адводзяць, між іншым, гарадскім вуліцам, аднаўленню маставых і тратуараў, перабудове дажджавой каналізацыі, а таксама вулічнага электраасвятлення. У 2018 годзе мадэрнізавалі маставыя вуліц Каханоўскага, Тувіма, Міцкевіча, Цэльнай, Цеснай і Пшанічнай ды адрэзкі вуліц Ураджайнай і Белавежскай.

У мінулым годзе перабудавалі таксама дажджавую каналізацыю на вуліцах Бярозавай і Грунвальдскай да рачулкі Леснай ды на вуліцы Рэя.

У 2019 годзе ў план інвестыцыйных задач занесена, між іншым, перабудова маставых вуліц Мікалая Рэя, Сланечнікавай, Ляшчынавай і Бортнікаў (Bartników). Пабудуюць летняе пленэрнае кіно, вялікую пляцоўку для дзіцячых гульняў пры вуліцы Ліпавай ды скаладром. У сёлетніх планах прадбачана выкананне маніторынгу горада. **(яц)**

# Займалася племянным вывадам трусоў і нутрый

*Размова з **Алінай ВАСІЛЕЎСКАЙ**, у дзявоцтве Нядзельскай, 1946 года нараджэння, з Орлі.*



**— Ці Вы цікавіліся гісторыяй сваіх продкаў? Ці памятаеце сваіх дзядоў?**

— Мае дзяды жылі асобна, я толькі бегала да іх, калі была малою. Як расказвала мая мама Зінаіда Нядзельская, бабуля Аляксандра Карач (у дзявоцтве Шайкоўская) і дзед Кліменцій у час бежанства апынуліся ў Маскве ў сям'і фельдфебеля і там у 1916 годзе нарадзілася мая мама. У Маскве тады панаваў голад і мамін тата, які быў дзелавітым чалавекам, рашыўся ехаць на Украіну, дзе бытавыя ўмовы былі намнога лепшыя, паколькі саветы не паспелі там усяго абрабаваць і разбурыць. На Украіне ўспыхнула эпідэмія тыфу. Жылі на вёсцы, дзедка захварэў і памёр ад гэтай страшэннай хваробы. Дзедава сястра, якая была манашкай, стала намаўляць бабулю Аляксандру вяртацца з дзяцьмі на радзіму. У 1921 годзе бабуля вярнулася з пяцярымі малалеткамі: Андрэем, Лідай, Нінай, Оляй і Зінай — маёй мамай — у Орлю. Двое дзяцей памерла ў Расіі, а найстарэйшы іх брат Аляксандр там астаўся.

Сям'я майго бацькі таксама была ў бежанстве; бацька, Сяргей, нарадзіўся ў Даршаве каля Смаленска 1 снежня 1915 года.

**— Як, паводле расказаў Вашых бабулі ці маці, жылося ім пасля вяртання з бежанства?**

— Калі вярнуліся ў Орлю, было вельмі-вельмі цяжка. У бабулінай хаце жылі жыды, якія тую хату моцна запусцілі — выбіты шыбы, знішчана падлога. Прыехалі восенню, перад Іванам (прыходскае свята 9 кастрычніка — М. М.). Сям'я не мела сваёй бульбы, пагражаў голад. (У Орлі ў той час здаралася, што некаторыя людзі пухлі і паміралі з голаду — М. М.) Да вясны жылі разам з жыдамі-кватарантамі. Маёй маме было талы пяць гадоў і ўжо добра запамятала, што калі яны елі вараную бульбу, якую акуналі ў расол з-пад селядцоў, то яна, седзячы на печы, толькі слінку каўтала. Часам частавалі яе адной-дзвюма бульбінамі. Мама хадзіла на заробак да жыда Авеля. За размол у жорнах аднаго пуда жыта атрымлівала фунт хлеба.

Вясною ўлады далі бежанцам па паўметра бульбы і збожжа з амерыканскай гуманітарнай дапамогі. Старэйшы мамін брат Андрэй, якому было сямнаццаць гадоў, стаў гаспадарыць. Прадалі пляц і купілі ладнага каня. У сямейнай клуні жыў жыд Давід, які ў шабаш хадзіў з Андрэем у поле і падказваў яму, як трэба баранаваць канём. Вясною пасадзілі бульбу (кроілі яе так, каб у кавалку быў толькі адзін парастак, тады больш атрымлівалася), а восенню сабралі неблагі плён. І голад ужо не быў такі страшны.Калі мы былі ў бежанстве, нашу мэблю расцягнулі жыды. Асталася толькі табурэтка, на якой усе елі. Пасля бабуля хадзіла па жыдоўскіх дамах і сваю мэблю забірала.

**— Як Вы запамяталі сваё дзяцінства?**

— Я ўсё пры Вашай сям'і трымалася, з Вашай сястрой Ірэнай сябравала. Ад прадшколля і пасля ў школе. І ўвесь час помню тыя агурцы Вашай мамы Ніны. Мы, дзеці, гуляем у панадворку, Ваша мама нарыхтуе бульбу, а агурцы былі такія вялікія, пахучыя. Кожнаму з нас у далонь кулёк варанай бульбы і тыя соленыя агурцы.

У прадшколле хадзіла я з Ірэнкай і вадзілі яшчэ суседа Эдка Лапінскага. Ягоная маці Люця толькі падвядзе і „завядзіце ў прадшколле". А калісь бывала столькі снегу, што той Эдэк за тэлефонныя правады хапаўся, такія пад імі былі гурбы. А летам у Ляшэвіча былі гусі, то мы, калі праходзілі побач, прытулялі яго, каб гусь не ўкусіла; ён гэта ўвесь час успамінаў.

Ежа ў прадшколлі была слабая. А ў панадворку, у каморцы (дзе калісь быў шпітальны морг — М. М.) стаяла бочка з сухім амерыканскім малаком (мабыць было яно ўстарэлае, таму яго туды паставілі — М. М.), то мы яго нагамі адломвалі і пад'ядалі; такое жоўтае, салодкае было.

**— Як у ранніх 1950-х гадах гулялі дзяўчынкі?**

— Мы цэлы час на *Згурках* сядзелі. (*Згуркі* гэта пясочны кар'ер, пад лесам Лапінскага, дзе бралі жоўты пясок для будовы дарог і ў кафлярню — М. М.) Нас цікавілі птушкі, ластаўкі-зямлянкі, якія рабілі глыбокія норы ў пясочным абрыве і мы там грабліся.

А побач *Згурак* на пашы пасвілі гусей, але пасля поўдня, калі кароў заганялі дамоў. Гусей гадавалі на мяса і на пер'е. Гусі наядуцца, пасля пойдуць паплаваць на рацэ. І калі паклічаш, то ўсе бягуць да гаспадара. Калісь усё сваё гадавалі.

**— А як выглядала Ваша далейшая адукацыя?**

— У Орлі чатыры першыя класы вучыліся ў будынку старой гміны (дзе зараз Спора), а побач, у будынку, дзе Банькоўскі, была майстэрня. А пасля старэйшыя класы займаліся ў будынку, дзе зараз каталіцкая капліца. У школе вучням давалі чорную збожжавую каву і па лусце хлеба.

У Орлі была таксама сельскагаспадарчая школа, трохгодка, вучыў Калішэвіч. Вучыліся ў ёй Коля Ярымовіч, Уладэк Кубаеўскі... І я ў ёй крыху вучылася, але пасля кінула. І пайшла вучыцца ў Беласток, у „Адзяжоўку" — тры гады на краўчыху. Школа была па вуліцы Ліпеньскага Маніфесту, у будынку Электрычнага тэхнікума. Жыла я ў сваёй сястры Олі, старэйшай за мяне на дзесяць гадоў. Навука адбывалася ў прыватнай майстэрні, былі там машыны традыцыйныя і электрычныя. Тэарэтычных заняткаў не было. Пасля ўладальніца дала пасведчанне і рэпутацыю. А пасля трэба было яшчэ здаць экзамен перад камісіяй, мусіла шыць.

У 1964 годзе выйшла замуж, за Уладка, мясцовага. У 1967 годзе нарадзіўся ў нас сын Міраслаў. З часам пабудавалі сабе двухпавярховую мураванку.

**— Ці была праца для краўчыхі?**

— Была. Шыла сукенкі, нагавіцы. У той час складана было купіць адпаведную вопратку. У крамах былі кіпы матэрыялу. І працы хапала, але муж неўзабаве зладзіў іншую працу, дома.

Найперш нагадаваў трусоў, тады была на іх мода. Пакупнікі прыязджалі да нас з Бельска. Я за адну пародзістую шыншылу плаціла па тысячы злотаў; шкуры выраблялі ў Цеханоўцы. Пасля муж зладзіў ферму нутрый, каля трохсот штук, вывелі сваю пароду. Было з імі шмат працы. Для нутрый садзілі многа бульбы, а зямля ў нас гліністая, трэба было многа чысціць для электрычнага кормазапарніка. Цэлую жалезную ванну варанай бульбы з восыпкай. І гэта цягала ў клеткі.

Ці брала нутрыю ў рукі? О, я іх цалавала! Жывёла чуе, хто яе апякун, хто яе корміць і яна спакойная. Нутрыя мае вострыя зубы і калі б клетка была драўляная, то за ноч прагрызла б дзірку і ўцякла б.

**— А Ваш муж чым займаўся?**

— Муж працаваў у кафлярні, выпальваў кафлю. Кафельшчыкамі былі таксама мой бацька Сяргей і ягоны бацька Павел. Недзе з 1990 года муж з сынам у сваёй фірме, цягам чвэрці стагоддзя, выраблялі намагільнікі са шчэбенева-мастычнага асфальтабетону. Дадам, што Уладэк у парадку ахвярапрынашэння канструяваў і заліваў высокія бетонныя калоны ў арлянскай царкве, калі яе абнаўлялі ў 1980 годзе. Памёр 9 снежня 2012 года.

**— Як можаце ахарактарызаваць жыццё ў ПНР і зараз?**

— Цяпер усё памянялася. Кожны зробіць пакупкі ў краме і сядзіць у хаце. А калісь людзі выходзілі, размаўлялі з сабою. Зараз то і курыцы не пабачыш, бо ліса жыве ў суседавай клуні.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў і фатаграфаваў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Голад у сучасным свеце

Часам, калі гляджу на сучаснае пакаленне дзяцей, якое марудзіць і не хоча есці, калі на сучасным стале ў Польшчы маецца практычна ўсё, чаго не мелі нашы дзяды і бацькі, дык так сабе думаю, што дзесьці ў далёкай Афрыцы, Індыі іх равеснікі не маюць чаго ўкласці ў рот. Тады даходжу да вываду, што ў нашай Польшчы сапраўды няма ніякай бяды ў параўнанні з тым, дзе спрадвеку цягнуцца голад, вайна і хваробы. Хвалюе мяне тое, што калі на свеце галадуюць мільёны людзей, то ў высокаразвітых краінах марнуюцца тоны ежы, якая ў выніку трапляе на звалку. Прачытаўшы кнігу аргенцінскага журналіста і пісьменніка Марціна Капароса «Голад», сапраўды трэба задумацца над маштабам праблемы голаду на свеце.

## БЯДА Ў ІНДЫІ І АФРЫЦЫ

Даныя за 2016 год сведчаць, што ў Індыі на агульны лік 1,2 мільярда жыхароў 650 мільёнаў не закончыла пачатковай школы, 800 мільёнаў не мае тэлевізара, 950 мільёнаў не мае газавай пліты, 980 мільёнаў не мае туалета ў хаце і толькі 200 мільёнаў жыхароў Індыі належыць да недатыкальнай касты. Індыя займае 10 месца сярод багатых краін свету, а 500 мільёнаў індусаў штодзень галадуюць. Затое ў Індыі ёсць 550 мільёнаў мабільных тэлефонаў. Індуская дзяячка антыглабалістычнага руху Ванда да Шыва, прыхільніца традыцыйнай сельскай гаспадаркі пацвярджае, што прычынай голаду ў Індыі з’яўляецца глабалізацыя. Для прыкладу, у 1947 годзе ў ЗША на аднаго гаспадара прыпадала 40 гектараў зямлі, а ў 2005 г. — 1,3 гектара. Індыя мае найбольш апрацоўванай зямлі таму, што яна ў большай ступені заселеная, чымсьці ЗША. Найбольшыя краіны свету — Расія, ЗША, Бразілія і Індыя больш купляюць харчоў, чым іх выпрабляюць. Сярэдняя веку жыцця ў Японіі — 83 гады, у Афрыцы — 38 гадоў. На свеце галадуе ад 800 мільёнаў да нават 1,2 мільярда людзей, найбольш менавіта ў Індыі і Афрыцы. У Індыі ў 1964 годзе сабрана 12 мільёнаў тон пшаніцы з 14 мільёнаў гектараў зямлі, а ў 1995 годзе адпаведна — 57 мільёнаў тон з 24 мільёнаў га. 1/3 дзяцей у Бамбеі недаядае. W сламсах Бамбея памірае 26 тысяч людзей у год (70 чалавек на дзень). Выдаткі дзяржавы на ахову здароўя складаюць 210 рупій (4 долары) у год на асобу. У 1950 годзе на свеце было 86 гарадоў, у якіх пражывала мільён жыхароў. У 2015 годзе па 1 мільёне жыхароў жыве ў 550 гарадах, а 8 мільёнаў жыхароў налічваюць 25 гарады на свеце. 3/4 жыхароў вялікіх гарадоў у свеце жыве ў сламсах, гэта ад 10 да 12 мільёнаў людзей. 60% народу свету займае 6% паверхні горада без бягучай вады, вуліц і каналізацыі. Сламсы зжыраюць гарады. У Індыі 160 мільёнаў людзей жыве ў сламсах. 2,5 мільярда чалавек на свеце жыве без туалетаў. Штодзень 50 землярабоў у Індыі канчае сваё жыццё самагубствам, а 2200 землярабоў перасяляецца ў гарады. У Індыі ёсць 53 мільярдэраў і 140 тысяч мільянераў. Індыя экспартуе 60 мільёнаў збожжа ў год.

## У ЧАС ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

У час акупацыі Варшавы нямецкія салдаты атрымлівалі 2613 кілакалорый, палякі хрысціянскага веравызнання 699, а польскія яўрэі 184 кілакалорыі (Шарман Апт Расель, «Голад. Гісторыя ненатуральная»). У час вайны людзям вага цела зніжаецца ад 20 да 25 працэнтаў. Найніжэйшую вагу цела адзначана ў 30-гадовай жанчыны — 24 кілаграмы. У час Другой сусветнай вайны з голаду памерла 18 мільёнаў людзей.

## БАНГЛАДЭШ

У Бангладэшы ў 1990 годзе на 1 тысячу народжаных дзяцей памірала 117, а ў 2013 годзе — 147. На агульны лік 35 мільёнаў дзяцей працуе 5 мільёнаў ва ўзросце 5-14 гадоў. У Бангладэшы выпускаюць прадукцыю фабрыкі сусветных канцэрнаў, напр. Nike, дзе плацяць па 40 долараў у месяц. Бангладэш гэта другі па Кітаі сусветны экспарцёр тэкстыльных вырабаў. Штогод гэта дае 20 мільярдаў долараў прыбытку.

## ЗАСЯЛЕННЕ ЗЯМЛІ НА ПРАЦЯГУ БОЛЬШ ЗА 2000 ГАДОЎ

У годзе, калі нарадзіўся Хрыстос, на ўсёй зямлі было 300 мільёнаў жыхароў. У 1900 годзе насельніцтва нашай планеты складала 1,7 мільярда чалавек, а ў 1950 годзе — 2,5 мільярда. На 2050 год прадбачваецца, што на Зямлі будзе




пражываць 9 мільярдаў чалавек. У 1970 годзе 1/4 насялення Зямлі галадала — гэта 800 мільёнаў на агульны лік 3,7 мільярда. У 1980 ад голаду пакутавала 850 мільёнаў — гэта 21%, у 1995 годзе адпаведна 790 мільёнаў (14%). У Кітаі гадавое спажыванне мяса вырасла з 14 кілаграмаў у 1980 годзе на душу да 55 кілаграмаў цяпер. У Індыі зараз гэты паказчык складае 5 кілаграмаў на душу, калі ў багатых краінах Захаду — больш за 80 кілаграмаў.

## ЗША ТРЫМАЕ СУСВЕТНЫ РЫНАК, А Ў ІХ...

Archer Daniels, Midland, Bunge, Cargil i Luis Dreyfus — гэта чатыры сусветныя карпарацыі, якія займаюць 75% сусветнага рынку гандлю збожжам з усяго свету. У 2005 годзе іх абароты склалі 150 мільярдаў, а ў 2011 годзе — 320 мільярдаў долараў. Адносна бяды ў ЗША, дык у Чыкага ёсць 650 прытулкаў для бяздомных і публічных харчэвень. 50 мільёнаў чалавек у ЗША (16%) галадае. 33 мільёны дарослых і 17 мільёнаў дзяцей жыве ў дамах, у якіх наглядаецца «недахоп харчовай бяспекі». Палавіна ў іх гэта чорнаскурыя жыхары і лацінаамерыканцы.

## ФАСТФУДЫ Ў ЗША

Менавіта ЗША гэта самы багаты край свету з найбольшай лічбай бедных жыхароў. У 1980 годзе ў ЗША было 200 пунктаў выдавання дарэмных страў, а ў 2010 годзе — 40 тысяч. У 2008 годзе 28 мільёнаў амерыканцаў атрымала *food stamps* — квіткі вартасцю ў 260 долараў штомесячна для сям’і з трох чалавек. 20 мільёнаў дзяцей у ЗША дастае дармовыя абеды ў школах. 5% найбяднейшых людзей у ЗША мае больш даход на душу, чымсьці 60% найбяднейшага народу ўсяго свету. У ЗША ў 60-х гг. XX стагоддзя было 11% тоўстых людзей, а зараз 35%. Нездаровыя фастфуды таксама ставяць у залежнасць як алкаголь ці наркотыкі. Паўната ў ЗША прычыняецца да смерці 300 тысяч людзей. У ЗША абароты рынку, звязанага з пахудзеннем складаюць 33 мільярды долараў.

## МАРНАТРАЎСТВА ЕЖЫ

У Італіі штогод выкідваецца ежу вартасцю ў 37 мільярдаў еўра, якой можна было б накарміць 44 мільёны людзей. У ЗША на звалку штогод трапляе 40% харчоў. Аргенціна выпрабляе харчы для 300 мільёнаў людзей, а 40 мільёнаў аргенцінцаў галадае. У Аргенціне ёсць 15% беспрацоўных людзей, у тым 750 тысяч маладых ва ўзросце 18-25 гадоў застаецца без працы.

## СЛОВА АД СЯБЕ

Калісьці, як мае бацькі не вёсцы гаспадарылі, заўсёды мой бацька паўтараў, чаму ў Польшчы ад гаспадароў не збіраюць збожжа на Афрыку. А каб збіралі, дык бацька з ахвотай даў бы пару мяшкоў. Багатыя жыхары свету, хаця трымаюць увесь свет у руках, дык ім напляваць на беднякоў, таму што найбольшую карысць маюць з нафты, газу, золата і дыяментаў, а там дзе гэтыя прыродныя багацці ёсць, дык там ідзе вайна, якую пераважна пачынаюць ЗША. А як пачынаюцца войны на Блізкім усходзе ці ў Афрыцы, натоўпы мірных жыхароў, рызыкуючы сваім жыццём, уцякаюць у Еўропу. Адтуль бярэцца шматтысячнае бежанства ў краіны заходняй Еўропы там, дзе ёсць высокая сацыяльная дапамога. Аднак сацыяльнае забеспячэнне гэта падаткі жыхароў Вялікабрытаніі, Францыі, Нямеччыны і зараз гэтыя краіны ўжо маюць праблему з бежанцамі. Таксама скандынаўскія рухі левых сацыялістаў прычыняюцца да таго, што палітыка мультыкультурнасці нішчыць усю Еўропу. Гэта ў будучыні можа прычыніцца да сур’ёзных міжнацыянальных канфліктаў і ўрэшце да трэцяй сусветнай вайны. Тады, калі настане забруджанне зямлі ў выніку ядзернай вайны, дык галадаць будуць усе, хто перажыве гэтую вайну. Пра гэта не пішацца, але ёсць сусветны банк харчоў і з гэтага банку будзе выдавацца ежа тым, хто аддасць сябе пад новую ўладу свету. Пражыве той, хто будзе незалежны і будзе мець свой кусочак зямлі, сваю жывёлу, сваю хату. Пра гэта піша ў кнігах Старац Паісій са Святой Гары Афон, а нават сама Біблія. Глабалізацыя заціскае пятлю над незалежнымі землярабамі, якіх прымушае адракацца ад сваёй нерухомасці, а перш за ўсё зямлі. Гаспадар пакідае зямлю сваіх продкаў і пераносіцца ў горад. Там ёсць ён залежны ад грошай, якіх не мае таму, што няма працы ў гарадах. Так і ўжо становіцца ў Польшчы і ўсё з часам ідзе да таго, што зараз адбываецца ў Індыі ці ў Бангладэшы. Так і будзе за нядоўгі час.

**Юрка БУЙНЮК**

**Паводле кнігі:**
Martin Caparros, «Głód», Wydawnictwo Literackie, tłumaczenie z j. argentyńskiego na j. polski Marta Szafrańska-Brandt.

## Сведка гісторыі

Пры канцы мінулага года наведаў мяне сябра Зыгмунт Кастоўскі з Чаромхі-Станцыі ды расказаў вось такую гісторыю:

— Было гэта ў ліпені 1942 года. Мне было адзінаццаць гадоў. Вуліцай Чаромхі ў напрамку сяла Мядзвежыкі падавалася кучка мужчын з сямі чалавек. Канваіравалі іх чатыры салдаты Вермахта са зброяй. Рукі вязняў былі спераду звязаны калючым дротам. Адзін з арыштантаў у апошняй пары трымаў шапку пад рукою і гучна маліўся. Ягоны сябра нёс рыдлёўку. Гітлераўцы завялі вязняў у лес і там пастралялі. Захавалі іх у неглыбокай ямцы. Жыхары Чаромхі пані Долят з Ясудовічам зрабілі магілку і паставілі дубовы крыжык. Зараз па магіле след прастыў ды і дубовы крыжык зваліўся. Змрочны вобраз кучкі людзей па сённяшні дзень захаваўся ў маёй памяці. Пазней па пасёлку ішла гаворка, што арыштаваных прывезлі з Вярховічаў і Высока-Літоўска. З ходам часу я стаў апекуном месцаў нацыянальнай памяці і заняўся гэтай справай. Хадайнічаў за эксгумацыяй астанкаў і перапахаванне ў належнае месца. Пакуль справа аказалася безвыніковай. Я вярнуўся да згаданай тэмы таму, што тычылася яна злачынства і памяць у народзе пра гэта павінна быць захавана. Магчыма, што сямейнікі чакаюць весткі пра суродзічаў. Сумна на сэрцы робіцца, калі на магіле ў Дзень памерлых не гарыць вечны агонь.

Спадар Зыгмунт Кастоўскі не склаў рук і не пакінуў справы самой сабе. «Кур’ер паранны — Магазын» ад 22-26 снежня 2000 года надрукаваў яго расказ «Магіла, якой няма», а напярэдадні 70-й гадавіны Перамогі над гітлераўскімі захопнікамі гэтую тэму падняла рэдакцыя «Навіны Камянеччыны». Надрукавала яна аб’яву аб пошуках загінуўшых у ліпені 1942 года на станцыі Чаромха асоб:

1. Пятра Міхайлавіча Карацені, жыхара сяла Апака, 1898 года нараджэння
2. Несцера Давідовіча Чарнецкага, ж. с. Апака, 1909 г. н.
3. Піліпа Якаўлевіча Сцепанюка, ж. с. Вярховічы, 1902 г. н.
4. Варфаламея Васільевіча Крэчкі, ж. с. Дварэц, 1896 г. н.
5. Мікалая Васільевіча Крэчкі, ж. с. Дварэц, 1913 г. н.
6. Якіма Варфаламеевіча Васілюка, ж. с. Доўбізна, 1900 г. н.
7. Карпа Цімафеевіча Семенюка — ж. с. Доўбізна, 1895 г. н.

Пры тым была прыпіска, што гэтыя людзі былі расстраляны за дапамогу партызанам.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Кветкі кожнага дня

Міраслаў Філіпюк мае свой кветкавы магазін „Агатка” ў Гайнаўцы (пры вуліцы 3 Мая). Ён у цэнтры горада. Сюды часта прыходзяць жанчыны. Хто як хто, а яны любяць кветкі. Маюць іх у сваіх кватэрах круглы год. Любяць, калі ім кветкі дораць мужчыны. Кветкі радуюць зрок, зблжаюць людзей, папраўляюць дрэнны настрой сваёй прыгажосцю. Яны спадарожнічаюць нам у розныя жыццёвыя моманты — у радасныя і сумныя. Нядаўна — 14 лютага гэтага года — шмат кветак прадалі ў Дзень Валянцінак. А неўзабаве, 8 сакавіка, Міжнародны дзень жанчын і зноў будзе многа пакупнікоў у „Агатцы”. Восенню будуць купляць кветкі перш-наперш для настаўніц і настаўнікаў.

Спадар Міраслаў паспяхова вядзе кветкавы магазін з 1991 года. Займае прыгожае ды ўтульнае памяшканне з вялікімі вокнамі. Кветкі прадаюць дзве ветлівыя маладыя жанчыны ў фартушках.

Кветак у яго магазіне столькі, што можна выбіраць. Тут чырвоныя і жоўтыя ружы, чырвоныя гваздзікі, герберы, трох колераў цюльпаны, бягоніі, фрэзіі, ятрышнікі, маргарыткі, пахучыя лілії, антурыюм і іншыя з экзатычнымі назвамі гэтыя цудоўныя расліны. Ёсць у продажы жывыя і штучныя кветкі. Некаторыя растуць у вялікіх і малых гліняных і пластмасавых пасудзінах для вазонаў. Тут можна купіць гатовыя або на заказ вялікія вянкі і букеты кветак з упрыгажэннем.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Дарагая як унукі!




Ці вы калісьці марылі, каб нехта вам напісаў верш? Ці хацелі б стаць героем нейкага твора? Напэўна так. Вось жыла калісьці такая бабуля, якая вельмі любіла Беларусь і сваіх унукаў. Унукі Алесь і Міхась жылі тут, на Падляшшы, а бабуля — за мяжой. Яна вельмі за імі сумавала, але не магла іх адведаць, а калі спрабавала з імі паразмаўляць па тэлефоне, перашкаджаў вецер. Што заставалася? Пісала лісты і слала іх сваім унукам у Польшчу. Пісала ім жартоўныя і павучальныя вершыкі. Калі верш быў пра бусла, малявала таксама чырванадзюбага бусліка. Міхась і Алесь атрымлівалі ад бабулі з-за мяжы вось такія незвычайныя падарункі.

Бабуля, Ларыса Геніюш, была выдатнай беларускай пісьменніцай. Калі вы яшчэ пра яе не чулі, напэўна даведаецеся на ўроках беларускай мовы. Яна перш за ўсё пісала для дарослых, але дарослыя вельмі любяць чытаць яе дзіцячыя вершы. Зараз Міхась падрос і вырашыў выдаць кніжачку з вершамі і малюнкамі, якія слала ім бабуля. Зараз мы ўсе можам іх прачытаць у кніжцы «Унукам».

Такімі навінкамі варта дзяліцца, таму вам аб гэтым пішу. Таксама падзялілася я гэтай навіной з маімі маладымі сябрамі са школы ў Залуках. Расказала ім аб гэтым, што была на прамоцыі дзіцячай кніжкі з вельмі файнымі вершамі. Зразу адзін цікаўны хлопец запытаў:

— Колькі каштавала кніжка?

— Трыццаць злотых, — адказала я.

— То якая гэта прамоцыя?! — пачула я ў адказ.

Усё-такі раю адмовіцца ад цукеркаў ці чыпсаў і купіць кніжачку «Унукам». Калі яшчэ самі не зможаце яе прачытаць, з задавальненнем прачытаюць вам бацькі. А нават калі не, то варта яе мець дома нават дзеля таго, каб проста паглядзець на прыгожыя малюнкі.

А сама аўтарка Ларыса Геніюш у гэтых вершах магла б сёння знайсці кожнага з вас. Кожнага, хто вывучае і любіць дарагую ёй беларускую мову.

**Уля ШУБЗДА**

**Юля ПЛЕВА**
ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

*Вылучэнне ў конкурсе «Дэбют»*

# Калі прыходзіць сакавік

Калі ў вокны пазірае сакавік і бачна сунецца белай парай усюды, прырода, прачынаючыся, пачынае жыць, пераліваючыся колерамі слюды.

Адценні кветак тонуць у бляску сонца, залацістасць афарбоўвае іх моцна. Сонна-вокія, лянівыя жыхары лесу паволі выходзяць са сваіх сутарэхаў. Каб апусціцца ў светла-прамяністыя пейзажы вясноваквяцістыя.

А фарбы яшчэ кампануюцца, стваражючы музычную карціну. Пяшчотна птушак прымаючы з падарожжа да дому вяртаючыся, і спяваючы дзіўныя арыі, хараства вясновага поўныя.

Адухоўлены свет свежым паветрам распраўляе свае зялёныя жылкі, напаўняючы артэрыі цёплым, першым дажджом задзірыстым.

Кожная кропелька паміж павуцінкай святла скача і стварае рыскі на небе. А мы называем яго твор прыемны вясёлкай калярова-прывабнага колеру.



Юля і Вераніка (фота facebook.com)

Людміла ВОРАНАВА

## Сакавік

Падснежнікаў палянка
Ні ветру, ні дажджоў,
Няма і сонца зранку,
А сакавік прыйшоў...

Лёд ломіцца на крыгі,
Тараніць плынь ракі,
Даносяць дзетак крыкі
Рачныя берагі...

Караблікі з паперы
Пускае дзетвара...
І скача заяц шэры –
Вясны прыйшла пара.

Бабры будуюць хату,
Мышкуе рыжы ліс,
А мурашы-піраты
Галіну цягнуць уніз.

Ажыў і лес, і поле,
У бярозах сок журчыць,
Вясна ідзе паволі,
А сакавік бяжыць.

## УВАГА КОНКУРС!

## № 08-19

**Мае дзве нагі пакладзены,**
**Радочкам пеоакладзіны.**
**На апошнюю як стану –**
**Зверху яблыкі дастану.**
**Д......**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 10 сакавіка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 4: канькі.**

**Узнагароды, велікодныя наклейкі, выйгралі Вікторыя Якімюк, Оля Хіліманюк з Нарвы, Шыман Радзівіл, Аляксандра Тамчук, Каміля Бушко з Бельска-Падляшскага, Якуб Авярчук, Тамаш Вілюк з Арэшкава, Вікторыя Якімюк з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Вікторыя Матышэк, Наталля Калодка з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія. Віншуем!**

# Каляровая масленіца

**Масленіца** — апошні тыдзень перад Вялікім постам. Назоў пайшоў ад малочных страў: масла, сыроў, бліноў са смятанай, якія надта ахвотна ды ў празмернай колькасці спажывалі ў гэты тыдзень нашы продкі. У народзе «Масленіцу» ўяўлялі з ластаўкай, сімвалам вясны і адраджэння. Якраз прабуджалася з зімовага сну прырода, вярталіся з выраю жаўранкі. Людзі верылі, што з дапамогай абрадаў і песень аблегчаць прыход вясны.

Увогуле Масленіцы ўласцівая незвычайная весялосць. Дзяўчаты і маладзіцы апраналіся ў лепшыя строі. Моладзь ладзіла ўсякія гульні, гушкалася на арэлях і коўзалася з горак на санках. Увесь тыдзень лічылі магічнай парой, усе дзеянні, абрады і варажбы мелі ажыццявіцца цягам бягучага года. Верылі, прыкладна, што той, каму пашанцуе найдалей скаціцца з горкі, у таго вырасце найдаўжэйшы лён.

Рэлікты старажытных павер'яў захаваліся па наш час. У апошні тыдзень перад вялікім постам з'ядаем шмат высокакаларыйных пончыкаў, рацушкаў, хрусцікаў. У асаблівай пашане бліны, якіх першапачаткова лічылі сімвалам Сонца. Моладзь і дарослыя ладзяць забавы і танцы, якія часта называем «запустамі». Дзеці ў сваю чаргу спальваюць куклу Мараны і співаюць песні пра вясну. Усё гэта дзеля падтрымкі сяброўства і жыццёвага задавальнення, сярод чыстай, дагледжанай прыроды.

**Зорка**



(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Леў і лісіца

Леў узяў на службу лісіцу і прыказаў ёй:

— Калі ўбачыш, што мае вочы залівае кроў, гавары — гэта знак, што я ўжо гатовы збірацца на паляванне.

— Ну, добра! — усцешылася лісіца.

І яны так дамаўляліся. Леў паляваў і разам елі мяса.

Але ж надакучыла для лісіцы служба і дружба. Схітрылася рыжая. Кінула яна ільва ды сама ўзяла да сябе на службу ваўка. Адразу яго правучыла:

— Не важна, будуць у мяне вочы залітыя кроўю, ці не будуць, а ты гавары:

— Так, многа крыві ў тваіх вачах!

Мінула многа ці мала часу, згаладнелі звяры. Час збірацца на паляванне. Лісіца глянула на ваўка і пытае:

— Ну, паглядзі! Ці заліла ўжо кроў мае вочы?

— Надта многа я бачу крыві ў тваіх вачах, — адказаў ёй ліслiва воўк. — Ды яна такая густая-густая...

Уявіла сябе лісіца ільвом, накінулася на статак аленяў. А яны замест уцякаць, рушылі ў яе бок, перакінулі і патапталі капытамі і пабадалі рагамі. Упала лісіца і ляжыць у калюзе крыві, без памяці. А згаладнелы воўк прыхаваўся ў кустах і завывае:

— Падымайся кума! Твае вочы і лоб заліты крывёй! І яна, сапраўды зараз надта густая-густая.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

**Агнешка ГРЫКА**
Міхалова

### Чароўная краіна

У чароўнай краіне Нагілля
Усё знойдзеш,
Ад высокіх гор да чыстага мора.
Мора тут глыбокае,
Горы тут самыя высокія,
Толькі чалавек такі маленькі
І непрыкметны.

### Чорная магія

Матэматыка, так,
Гэта чорная магія.
Я не ведаю, хто можа яе любіць,
Аб ёй гаварыць
Нават мне прыкра.
Гэтыя тысячы лічбаў,
Множанне і дзяленне,
Складанне і адыманне...
Што тут рабіць?

## Польска-беларуская крыжаванка № 08-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 4-2019:**
Як, правіна, пром, Ніл, кніга, нагода, прыгода, Макар, дзяк, цыганка, Іра, ціша, галяк. Гекон, як, ці, мыш, маг, ага, лапка, ранг, нырка, вораг, год, годзік, даяр, явар, каб. (У крыжаванцы, у першым радку гарызантальна дапушчана памылка, замест «przedwiośnie», павінна быць «przewinienie». Адказ глядзіце вышэй).

Узнагароды, **святочныя наклейкі,** выйгралі **Аляксандра Тамчук, Габрыся Калішук** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Давід Сурэль, Антаніна Варанчук** з Арэшкава, **Эва Баршчэўская, Ніколь Баслай, Мацей Мядзведзь** з Нараўкі, **Аляксандра Макаль, Зузанна Папко** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія. Віншуем!

Pamiątka
Świniak
Cudak
Pięta
Anoda
Tupot
Żłobek
Jan
Futro
To
Prysznic
Ona
Stan
Tur
Ada
Gen
Wieloryb
Kapusta
Kaktus
Si (nuta)
Ryż
Ara
Ogrodzenie
Nizina
Jan
Osad

# 10 гадоў гайнаўскім «Званкам»



**На зломе 2008 і 2009 гадоў настаўніца-пенсіянерка Вера Масайла заснавала беларускі калектыў «Званкі». Яго ўдзельнікі, гайнаўскія вучні і дашкольнікі, сталі па-беларуску выступаць з абрадавымі пастаноўкамі, дэкламаваць вершы і спяваць беларускія песні і калядкі. Рэпетыцыі калектыву сталі адбывацца ў Гайнаўскім доме культуры, дзе маладыя члены «Званкоў» займаюцца па сённяшні час. Мастацкі кіраўнік калектыву Вера Масайла піша сцэнарыі тэатральных пастановак і падбірае беларускі рэпертуар членам калектыву для дэкламатарскіх і песенных конкурсаў. У розных складах калектыву «Званкі» на працягу дзесяці гадоў выступала некалькі дзясяткаў вучняў і дашкольнікаў, якія занялі многа пераможных месцаў і атрымалі многа дыпломаў і ўзнагарод.**

У студзені 2019 года беларускі калектыў «Званкі» Гайнаўскага дома культуры ажно чатыры разы займальна выступіў з калядкамі. Як адзіны прадстаўнік беларускага асяроддзя «Званкі» былі кваліфікаваныя на XXX Ваяводскія сустрэчы калектываў калядоўшчыкаў, якія праходзілі 27 студзеня ў Гайнаўскім доме культуры і за ўмелую прэзентацыю аўтэнтычнага калядавання са звёздачкай атрымалі вылучэнне. Маладыя калядоўшчыкі з Гайнаўкі былі апрануты ў кажухі і цёплую вопратку, а чатыры дзяўчыны выступілі ў саянах амаль стагадовай даўнасці. Гайнаўскія дзеткі і моладзь удала запрэзэнтавалі прывітальныя і развітальныя дыялогі, якія вяліся паміж калядоўшчыкамі і гаспадарамі, якія іх прымалі на панадворках.

— Мы, як адзіныя, выступалі з дыялогамі на беларускай мове ў час XXX Ваяводскіх сустрэч калектываў калядоўшчыкаў і паказалі вясковае калядаванне перыяду маладосці маёй мамы. Ад маёй бабулі засталіся ў мяне чатыры ваўняныя саяны, выканаsuccessful амаль сто гадоў таму, у якіх цікава запрэзентаваліся нашы дзяўчыны. Каб паказаць аўтэнтыку калядавання, я прасіла членаў нашых «Званкоў» апрануцца ў колішнюю вопратку і, выходзячы на сцэну, узяць у рукі ліхтар, карзінку і рэшата, з якімі хадзілі калядннікі па вёсках. Я вельмі рада, што за аўтэнтыку атрымалі мы вылучэнне з ліку многіх калектываў ваяводскага агляду. Раней мы аўтэнтычнае калядаванне запрэзентавалі ў час Фестывалю «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» у Гайнаўцы, падчас XX Прэзентацый калектываў калядоўшчыкаў «Звязда і каляда» ў Беластоку і ў час каляднага вечара ў Гмінным цэнтры культуры ў Дубінах, — расказала пра выступы «Званкоў» у 2019 годзе Вера Масайла.

Восенню мінулага года падчас чатырох аглядаў Прэзентацый абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне» калектыў «Званкі» паказаў абрадавую пастаноўку «Каб не тыя лады». Маладыя асобы на беларускай літаратурнай мове цікава і з гумарам запрэзэнтавалі перадвясельныя лады. Большасць выступоўцаў саставілі вучні Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы, якіх найбольш займаецца ў тэатральнай і песеннай групах калектыву «Званкі».



■ Мастацкі кіраўнік «Званкоў» Вера Масайла з дыпломамі калектыву

— Усё пачалося з калектыву «Званочкі», які я заснавала ў 2006 годзе ў Прадшколлі № 3 у Гайнаўцы, дзе я перад выхадам на пенсію працавала настаўніцай. З калектывам пачалі мы выступаць на аглядах і конкурсах. Спачатку дабіліся мы поспехаў на аглядзе, арганізаваным для нацыянальных меншасцей у Прадшколлі № 14 у Беластоку, а пазней мае дзеткі перамагалі ў Дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова» і цікава спявалі калядкі ў час «Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай». Мае «Званочкі» паспяхова выступалі па-беларуску таксама ў час іншых мерапрыемстваў і гэта ўсё так мяне падбадзёрыла, што калі я восенню 2008 года апынулася на пенсіі, хацела прадаўжаць працу з дзеткамі ў беларускай справе, якой называю іх выступы з беларускім рэпертуарам. На зломе 2008 і 2009 гадоў стала я рыхтаваць дзетак да выступаў у Гайнаўскім доме культуры, адкуль атрымалі мы дапамогу ў касцюмах з беларускімі народнымі матывамі і ў транспарце. Стала я вазіць членаў калектыву, які назвалі «Званкамі», выступаць на тыя агляды і конкурсы, на якіх раней выступалі «Званочкі». Мае дзеткі і моладзь заўсёды выступалі на беларускай літаратурнай мове, хаця калядкі стараемся прэзентаваць у дыялектным варыянце, так як спявала вясковая моладзь даўней. У ГДК стала я працаваць на грамадскіх пачатках, паколькі хацелася мне прадоўжыць тую ж работу, што выконвала перад выхадам на пенсію, — распавядала Вера Масайла.

Беларускай літаратурнай мове Вера Масайла вучылася толькі ў пачатковай школе, а пасля ўдасканальвала яе чытаючы «Ніву» і кніжкі на беларускай мове, якіх кольkасць у яе хаце большае і цяпер. Вершы спадарыня Вера стала пісаць па-беларуску ў канцы дзевяностых гадоў і прадаўжае гэта рабіць па сённяшні час.

— На Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «Дэбют» даслала я ўжо звыш пяцідзесяці вершаў, якія я пішу на беларускай літаратурнай мове. Два разы займала я ў конкурсе першыя месцы. У мінулым гэтым годзе камісія прысудзіла мне другое месца. Па першай маёй вышэйшай адукацыі я заатэхнік. Аднак здабыла я педагагічную падрыхтоўку на ўзроўні вышэйшай адукацыі і стала працаваць настаўніцай, спачатку ў Сельскагаспадарчых вечаровых тэхнікуме і прафесійнай школе ў Гайнаўцы, а пазней у Пачатковай школе № 3 у Гайнаўцы, дзе вучыла я біялогіі і хіміі. Калі збудавалі прадшколле непадалёк ад майго дома, я ў 1985 годзе перайшла туды на працу як настаўніца дашкольнікаў, хаця мусіла здабыць паслядыпломную адукацыю ў гэтым напрамку, — гаварыла спадарыня Вера Масайла, якая дзесяць гадоў таму, перайшоўшы на пенсію, памяняла прафесію настаўніцы на валанцёрскую пасаду мастацкага кіраўніка гайнаўскага беларускага калектыву «Званкі».

Спачатку ад імя «Званкоў» стала яна рыхтаваць да выступаў дзетак, якіх раней вучыла ў прадшколлі і іх сяброў. У першым саставе калектыву ўмела прэзентаваліся Аляксандра Буслоўская, Артур Маркоўскі, Адам Лінк, Анна Чыквін, яе брат Матэвуш Чыквін, браты Пётр і Павел Аўксенцюкі і Матэвуш Харкевіч, які пасля ўдала іграў на акардэоне. Былі ў «Званках» таксама іншыя добрыя акардэаністы — Яцак Дружба, Тамаш Дружба, а цяпер на акардэоне падыгрывае калектыву Давід Ціханюк.

— Пачынаючы з 2009 года, па 2014 год, калектыў «Званкі» займаў першыя месцы ў Конкурсе тэатральных калектываў у Беластоку. У мінулым годзе мы ізноў здабылі ў згаданым аглядзе першае месца. Спачатку ад імя калектыву «Званкі» вучні прымалі ўдзел у Дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова» і Конкурсе праваслаўнай рэлігійнай паэзіі ў Гайнаўцы, але пазней удзельнікаў гэтых конкурсаў сталі рыхтаваць настаўнікі беларускай мовы і праваслаўнай рэлігіі і мы спынілі актыўнасць. Падобна было з конкурсам «Беларуская песня», калі падрыхтоўкай да песеннага конкурсу сталі займацца настаўніцы з прафесійнай музычнай адукацыяй. Яшчэ ў мінулым годзе цікава выступіў па-беларуску наш дуэт, але поспехаў ужо не дабіўся. Мы цяпер засяроджваемся на абрадавых пастаноўках. Выступаем падчас Прэзентацый абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне» ў Гайнаўцы і іншых мясцовасцях. Пазней мы пастаноўкі паказваем на Конкурсе тэатральных калектываў. Да выступаў з тэатральнымі пастаноўкамі я сама пішу сцэнарыі, карыстаючыся перш за ўсё аповедамі мамы, якая цяпер жыве разам са мной. Пасля, для захавання аўтэнтычнасці, спраўджаю маміны інфармацыі па іншых крыніцах. Мы апошнімі гадамі прэзентавалі «Пакудзелле — успаміны вазакоў 1946 года», «Сучасныя вячоркі — успаміны бежанства 1915 года», якія я падрыхтавала на падставе расказаў жыхароў Збуча, адкуль я родам. Восенню мінулага года паказалі мы пастаноўку «Каб не тыя лады» — адзін з абрадаў, якія папярэджвалі вяселле. Сцэнарый да гэтага абраду і абраду «І як тут не верыць у шаптухі» я саставіла на падставе ўспамінаў маёй мамы. Пастаянна развучваем нашы калядкі і прэзентуем іх падчас калядных аглядаў «Звязда і каляда» ў Беластоку, «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай», выступаем у іншых мясцовасцях Гайнаўшчыны, — расказвала Вера Масайла.

«Званкі» выступалі па-за Беласточчынай і занялі трэцяе месца ў Аглядзе вясковых і абрадавых тэатраў Падляшскага ваяводства ў Ломжы. Малодшая песенная група выступала з калядным абрадам разам з тэатральнай групай. Дзеткі былі рады, што маглі нядаўна запрэзэнтавацца з калядкамі ў розных месцах і атрымалі вылучэнне на XXX Ваяводскіх сустрэчах калектываў калядоўшчыкаў. Калядкі дзеці спявалі дома для бацькоў, сямейнікаў і суседзяў, да якіх зайшлі калядаваць. У вакальнай групе ёсць асобы, якія займалі прызавыя месцы на дэкламатарскіх конкурсах.

— У калектыве «Званкі» вельмі добрая атмасфера. У Гайнаўскім доме культуры праводзім рэпетыцыі, вучымся як паводзіць сябе на сцэне і ўдасканальваем веданне беларускай літаратурнай мовы. Мы ў групе пасябравалі. Пані Вера са зразуменнем ставіцца да нашых прапаноў, а калі становімся пераможцамі конкурсных аглядаў, радуемся. Поспехі, супольныя рэпетыцыі і выезды трымаюць нас у калектыве, — гаварылі Юлія Корх і Юлія Вжосак з тэатральнай групы «Званкоў» (у тэатральнай групе вылучаюцца таксама Юлія Мацюка, Эва Іванюк і Андрэй Бабулевіч).

— Я беларускай мове ў школе не вучылася. Выступаць і гаварыць па-беларуску вучыць мяне пані Вера. Навучыла яна мяне таксама спяваць па-беларуску, — гаварыла Юлія Вжосак, якая сола займальна выступала з беларускімі песнямі ў час «Бульбафэсту» ў Ліпінах.

Амаль усе члены «Званкоў» вывучаюць беларускую мову ў сваіх школах, што ім дапамагае хутчэй развучыць партыі сваіх выказванняў на беларускай мове.

— Трэба аб сваім мінулым памятаць, шанаваць нашу беларускую культуру, нашы традыцыі і родную беларускую мову. Я аб гэтым гавару маім вучням, калі рыхтуемся да выступаў на беларускай мове, — кажа Вера Масайла, якая мае намер надалей займацца калектывам «Званкі».

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# У бок Саколкі



Пуці на станцыі ў Геніюшах




Таблічка пра таблічку каля Кантароўкі

Прагнозы надвор'я з'яўляюцца бадай самымі непрадказальнымі. А бывае, што раней прагназаванае надвор'е супадае дакладна з прагнозам, але не зусім.

Выбраўся я ў вандроўку. Спярша паглядзеў прагноз пагоды: або дожджык, або снег, або будзе, або не; так мела быць. Гэта вельмі тыповы прагноз для асенне-зімова-веснавога перыяду. Меў быць і памяркоўны вецярок з захаду, час ад часу завіваючы і ад поўдня.

Сеў у поезд і еду ў напрамку Саколкі. Цягнік мякка пракоўзваецца цераз Букштальскую пушчу. Чыгуначная паласа выкладзена белым снежным дываном. А пад гэтым дываном, быццам у бляшанцы Пандоры, зачынена ўсялякае варожае чалавеку дыханне. Надыдзе вясна, снежнае века прыродна-Пандорынай бляшанкі растане і ўся тая армія камарні, мухаўні, клешчаўні і чаго там яшчэ ўзнімецца ў свой вырай і адтуль будзе пікіраваць сваімі джаламі ў напрамку цёплакроўных кампанентаў прыроды. А пакуль у цягніку цёпленька, выгадненька...

З поезда злажу на прыпынку Геніюшы. Вядуць туды мяне дзве цікаўнасці: адна большая, другая меншая. Спярша пра меншую. Цяпер па ўсёй краіне абнаўляюцца розныя кампаненты чыгуначнай інфраструктуры: пуці, пероны, станцыі. А менш галосна абнаўляюцца і чыгуначныя тэрміналы. Вось жа на чыгуначнай станцыі ў Геніюшах працаваў у 1970-х гадах адзін з найбуйнейшых перагрузачных тэрміналаў у Польшчы. Пазней, калі польская эканоміка памяняла свой вектар з усходу на захад, тэрміналы на ўсходняй граніцы сталі чахнуць. Каля дзесяці, а можа нават і менш гадоў таму быў я ў Геніюшах і застаў там даволі мінорны від.

А як цяпер? Крыху змены ёсць, і то ў яшчэ больш мінорным напрамку. Калі раней былі яшчэ праезды на перагрузачныя рампы, то цяпер іх ужо няма. Рампы, а іх у Геніюшах дзве, астаюцца адсечаныя ад свету быццам ціхаакіянскія атолы. Толькі не экзатычныя пальмы растуць на іх, але наша мясцовая флора: хвойкі, бярозы і яблыні найбуйней буйнеюць, а найгусцей усялякія зёлкі, якія прыстойнай пярынай засакрэчваюць заржавелыя рэйкі. Бетон, што мацуе рампы, не вечны, так як і ўсё, і той бетон няспешна з тых рампаў крышыцца, саступаючы месца напорыстай прыродзе.

З гэтых мясцовых атолаў выбіраюся задаволіць другую цікаўнасць. Гады таму два ці тры давялося мне вельмі спяшаць байкам на апошні цягнік у напрамку Беластока. І з Богушаў рвануў я ў Саколку, але беспаспяхова. А калі б тады быў рвануў у напрамку Геніюшаў, то можа і ўдалося б мне на той цягнік паспець. Не ведаў я дарогі і вось цяпер задумаў я тую дарогу знайсці на месцы, бо на месцы яна інакш выглядае чым на карце.

З Геніюшаў падаўся я па той дарозе, якая на карце вяла быццам у напрамку Богушаў. Спярша масток на Сакалдзе. Краі брукаванкі каля мастка абстаўлены прыдарожнымі слупкамі, якія, як мне здаецца, павінны стаяць вертыкальна. Але яны перад тым мастком расхілены ў бакі, быццам пялёсткі расцвіўшай напоўніцу кветкі. Чаму яны так расступіліся? Магчыма, што пад нагрузкай грузавікоў рассунулася дарожнае палатно, а магчыма, што і некаторыя транспартныя сродкі, кіраваныя надта энергічнымі вадзіцелямі, саматужна зрабілі сабе больш месца...

Зараз за мастком мясцовасць Тартак, а неўзабаве Кундзічы. І там разглядаюся я за той дарогай, якая мае мяне вывесці ў бок Богушаў. Ну, быццам нейкія дарожкі ёсць, але яны падаюцца надта кволымі і я трымаюся найбуйнейшай, якая выводзіць мяне ў напрамку нейкага панадворка. І далей ёсць тая дарога, але ўжо толькі як зарастаючая травою паралельная рэчцы дарожная паласа, па якой ужо ніхто не ездзіць. Але ж тая даўняя дарога павінна некуды мяне вывесці. Заўважаю з яе кладку цераз Сакалду, якой, кладкі, зорны час даўно ўжо мінуў. Мабыць па ёй сходзіліся на працу на рампах перагрузчыкі, пражываючыя на правабярэжжы Сакалды. Зараз кладка так жа гібее, як і згаданыя раней рампы. А сорак гадоў таму напэўна бурліла там перагрузачнае жыццё, як вадзічка ў веснавым ручайку. Гудзелі гудкі лакаматываў, грукаталі грузы ў вагонах, перакліквaліся ці пералайваліся перагрузчыкі. З гадамі канула ўсё тое ў Лету, а Сакалда панесла іх успамін у нейкі адлеглы космас.

Мая дарожная паласа нечакана канчаецца. І калі б не зіма, не змерзлае поле, то трэба было б мне вяртацца як Напалеону з-пад Масквы. Але па змерзлым ворыве дабіраюся я да асфальтоўкі, што ад Саколкі вядзе ў бок Разадранкі. І неўзабаве перада мною з'яўляецца паказальнік мясцовасці Miejskie Nowiny. У літаральным сэнсе малы Ясь мог бы пра гэтую мясцовасць падумаць як пра нейкае месца, дзе збіраюцца гарадскія цёткі дзеля абмену ўсялякімі чуткамі.

Але не навіны далі назву мясцовасці, а новіны, значыць упершыню абробленая зямля, мабыць з-пад выкарчаванага лесу. Бо ж там, як падае гістарычная літаратура, адбывалася паступовае церабленне тамашніх даўніх пушчаў. Дарэчы, тапонім Новіны прысутны не толькі каля Саколкі, але і каля Ласінкі, і каля Ляўкова... Слоўнік старапольскай мовы: „Nowe role starzy ludzie dwojako je zwali: jedne, które pierwszy raz na całym polu bywają orane albo też kopane — te właśnie zowią nowinami. A drugie, które przez kilka lat po oraniu albo zebraniu zboża w pokoju leżą; takowe też i za onym odleżeniem ku odnowieniu przychodzą, a przeto też jakoby z nowu rodzaj czynią. Dlatego jedni zowią je nowinami, drudzy odłogami".

А за Мейскімі Новінамі чарговая тапанімічная цікавінка. Першая ў чарзе вёска называецца Бахматоўка, другая — Кантароўка. Абедзве назвы паказваюць, што сялілася тут тэрміналогія прышэльцаў з далёкіх краін. Наогул пішацца, што татары сяліліся на ўсходзе Сакольшчыны, але гэтыя назвы дазваляюць меркаваць, што пранікалі яны, або толькі іхняя лексіка, і ў глыбінку Букштальскай пушчы. Бо бахматам звалі дужага татарскага каня, і гэтае слова прывандравала да нас з гэтымі коньмі і іх вершнікамі. А кантарам зваўся моцны повад пры моцнай аброці; а таксама бязмен — гэтая назва таксама прывандравала з цюркскіх моў...

Паміж толькі што згаданымі вёскамі заўважыў я цікавы эпізод. Дзве легкавушкі, якія ехалі насустрач сябе, спыніліся, з адной вадзіцель перадаў другому вадзіцелю спярша газету, а пасля і канверт. Гэтак лістаноша даручаў свайму адрасату пошту. Можа і нічога ў гэтым эпізодзе дзіўнага, аднак ён паказвае, што мы паступова мяняем лад жыцця і паволі перасядаемся ў самаходы, на ўсё больш пастаяннае ў іх жыхарства. МакДональдс гэтаму найбольш хіба яркі прыклад. Караванінг гэта чарговы прыклад, а ў Амерыцы, здаецца, ёсць нават ужо храмы, у якіх можна маліцца з самахода. Пажывём-пабачым, куды чалавек заедзе на сваіх выдумках...

Чарговая вёска на трасе маёй вандроўкі гэта Смалянка. Гэта таксама невыпадковы тапонім, які паказвае, што тут даўней быў лес, які, мабыць, *высмалілі*...

І цяпер пара вярнуцца да згаданага ў пачатку надвор'я. Сапраўды, яно было згоднае прагнозу — падаў ненавязлівы снег, дзьмуў памяркоўны вецярок. Толькі той снег быў іншага сорту, чым ён папулярна ўяўляецца. Менавіта не былі гэта мяккія парушынкі, але даволі цвёрдыя сняжынкі, якія, несеныя вецярком, секлі па твары быццам нейкі шрот з вінтоўкі. Калі б толькі па твары — яны балюча секлі па вачах; трэба было пастаянна жмурыцца. Нават з'явілася ў мяне думка, каб завярнуцца і пайсці з ветрам назад, у напрамку Саколкі. І мне яшчэ тое надвор'е засацыявалася са стэпнымі буранамі, і з выхадцамі з тых стэпаў, з татарамі, з манголамі, з кітайцамі, у якіх ад пастаяннага жмурання выраслі буйнейшыя вейкі. Ці ж то нашы татары не прыцягнулі з сабою да нас і стэпнога надвор'я. Можа і праўдзівымі з'яўляюцца асцярогі нашых вядучых палітыкаў перад імігрантамі, якія могуць навалачы да нас усялякія усялячыны. А можа тыя стэпавыя цвёрдаснежныя бураны навялі іх насельніцтва на гаючую акупунктуру ці акупрэсуру...

То яшчэ слова пра ўсялячыну, пра згаданую раней камарню, мухаўню, клешчаўню і таму падобнае. Прыцерушыла іх зіма. Але вось, як мне здаецца, новы наш час прыцерушыў і мясцовае насельніцтва. Некалькі самаходаў удалося мне пабачыць, а жывых людзей навонкі, на прыродзе, не ўдалося.

Са Смалянкі, насуперак шроту ў вочы, удалося мне пабачыць вежу касцёла ў Старой Разадранцы. Вікіпедыя: „Pierwsze wzmianki o dzisiejszej Rozedrance umieszczone są w Ordynacji Puszcz Królewskich Wielkiego Księstwa Litewskiego przeprowadzonej w 1639 roku. Wymieniony jest tam ostęp leśny Razdrony, leżący w kwaterze molawickiej Puszczy Sokólskiej, zarządzanej wtedy przez Hieronima Wołłowicza. Przed osiedleniem wsi Rozedranka w XVIII w. w ostępie tym mieszkało kilku strzelców pilnujących puszczy królewskiej, czyli kwatery nowodworskiej leśnictwa Bobrzańskiego. Byli to między innymi: Jakub Chomka, Józef Białous i Józef Buzun. Przywilejem króla Stanisława Augusta Poniatowskiego wystawionym w dniu 21 listopada 1793 roku Bazyli Dymowik otrzymał obręb lasu w puszczy królewskiej w ilości 3 włók do zagospodarowania na swoje potrzeby".

Дабіраюся да чыгуначнага прыпынку Разадранка. Недалёка адтуль мясцовасць Міцькава Гаць. У 34-м нумары „Нівы" з 1981 года Мікола Гайдук у сваім „Краязнаўчым слоўніку" так пісаў пра гэтую мясцовасць: „Міцькавую Гаць насялялі таксама баяры, Браслаўскія. Цікава, прозвішчы сігналізуюць, што яны маглі выводзіцца з Браслава (у старажытнасці Брачыслава), што на Віцебшчыне. Назва ж вёсачкі паходзіць ад праваслаўнага імені Дзімітрый, бо ад яго ў XV-XVI стагоддзі паўстала прозвішча Міцько. Браслаўскія (...) не заседжваліся ў лясной глухамані над Сакалдою. Былі яны царскімі афіцэрамі, чыноўнікамі ў канцылярыі гродзенскага губернатара, удзельнічалі ў рэвалюцыйным руху (былі ў ссылках ды пад наглядам паліцыі). Пачатак Міцькавай Гаці даў надзел трох ці чатырох валокаў".

Следам за Міколам Гайдуком можна меркаваць, што і Разадранку найперш насялялі носьбіты імён з такога ж фонду, што і першасяленца Міцькавай Гаці. І гэтак далей у бок Саколкі...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Згадка

# Прыгадаем беларускую настаўніцу Вольгу Якуцянку

Сто гадоў таму не стала беларускай настаўніцы з Сакольшчыны Вольгі Якуцянкі. Пра яе смерць пісалі некаторыя заходнебеларускія выданні. У прыватнасці, газета „Незалежная Беларусь” у чацвёртым нумары за 1919 год апублікавала матэрыял „Ад сяброў і сябровак з Горадня дастаем гэткі ліст-галашэнне па Вольцы Якуцянцы” і побач артыкульчык „Вялікая павіннасьць усіх беларусоў”. Два матэрыялы, прысвечаныя памяці Волькі Якуцянкі.

Хто ж яна такая была гэта Волька Якуцянка з двара Вароні Луг, якую любілі беларусы Сакольшчыны і Гародні? Яе не стала 1 кастрычніка 1919 года, дзяўчыне споўнілася толькі 18 гадоў. Але гэта была шчырая беларуска, патрыётка, працаўніца і, самае галоўнае, мела добрую па тым часе адукацыю.

Вольга Якуцянка жыла ў шматдзетнай беларускай сям’і. Акрамя яе ў сям’і было яшчэ пяцёра дзяцей і пракарміць усіх было няпроста. Але маці з бацькам усё рабілі, каб даць адукацыю старэйшай дачцэ Вользе. Вольга скончыла Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. І вярнулася на Сакольшчыну. Хутка памірае яе маці і сіротамі застаюцца яна і пяцёра малодшых братоў і сясцёр. Вольга для малодшых дзяцей замяніла сваю маці. Яна разам з бацькам пачала гадаваць сясцёр і братоў.

■ Свіслацкая настаўніцкая семінарыя, дзе вучылася Вольга Якуцянка. Фота пачатку XX стагоддзя.

Акрамя Свіслацкай настаўніцкай семінарыі Вольга Якуцянка скончыла яшчэ Першыя беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні. Школьны аддзел Беларускай Рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны прызначае яе ў адну з беларускіх школ настаўніцай. Аднак польскі інспектар адмовіўся зацвердзіць яе ў беларускую школу, прапануючы ёй вучыць дзяцей па-польску. Але Вольга, як шчырая патрыётка, адмовілася і не захацела вучыць беларускіх дзетак па-польску. Тады ёй зусім не даюць працы. А ў дадатак да ўсяго памірае і бацька. І ўсе дзеці ў сям’і пачынаюць галадаць. Ад перажыванняў хутка захварэла і сама Вольга. Яна хутка памірае ад запалення мазгоў.

Газета „Незалежная Беларусь” тады пісала: „Гарадзенскі беларускі настаўніцкі саюз і Грамада моладзі сільна адчулі страту аднаго з лепшых сваіх сяброў. На суботніку 4 кастрычніка пасля прамовы ў чэсць і памяць яе адпяялі гімн „Гэй, хто жыў...”, а ў нядзелю А. Архірэй атправіў

працяг ☞

■ Газета, якая пісала пра Вольгу Якуцянку



Напэўна, найбольш цікавым тэатральным мастацтвам з’яўляецца тое, якое спрабуе супрацьстаяць ганебным з’явам рэчаіснасці, засяродзіць увагу на праблемах грамадства. Прычым важна зрабіць гэта шчыра, не баючыся нейкага неадабрэння з боку маючых уладу. Адным з такіх беларускіх тэатраў з’яўляюцца „Крылы халопа”, які месціцца ў памежным Брэсце.

Як адзначаецца ў разнастайных паведамленнях пра гэты брэсцкі тэатр, арганізаваўся ён у 2001 годзе як альтэрнатыва афіцыйнаму беларускаму тэатральнаму мастацтву. З 2001 па 2011 год называўся «Свабодны тэатр». Тэатр аб’яднаў творча і палітычна актыўных людзей, якіх не задавальняла афіцыйная версія развіцця беларускага грамадства, у якім панавалі і пануюць цішыня і роўнядзь.

Калі зайсці на сайт тэатра, які месціцца ў інтэрнэце на адрасе **https://teatrkh.by**, то адтуль можна даведацца, што галоўная дзейнасць тэатра Крылы халопа стварэнне спектакляў, праца тэатральных студый, адукацыйныя мерапрыемствы ў галіне сучаснага тэатральнага мастацтва (лекцыі, сустрэчы, паказы), рэалізацыя тэатральных праграм і праектаў, у тым ліку з дзецьмі і людзьмі з інваліднасцю, праца тэатральнай бібліятэкі, абмен досведам с тэарэтыкамі і практыкамі з Беларусі і іншых краін.

Варта адзначыць, што на тэатральным сайце вельмі мала інфармацыі пра яго гісторыю і дзейнасць. Па ўсім відаць, што інтэрнэт-старонка створана збольшага для збору ахвяраванняў, бо там маецца опцыя для пералічэння сродкаў, а таксама паведамляецца пра тое, на што непасрэдна пойдуць грошы.

Таму для таго, каб больш падрабязней даведацца пра Крылы халопа варта зазірнуць на рускамоўны інтэрнэт-часопіс **https://binkl.by**, дзе месціцца інтэрв’ю з арганізатаркай тэатра Святланай Гайдалёнак. І там яна распавядае, што доўгі час тэатр быў фактычна пад забаронай і цягам каля трох гадоў яго калектыў увогуле не мог граць у Брэсце. Калі ты доўга не можаш граць, гэта нараджае свайго роду дэпрэсію, сумнеў у тым, што твае мастацтва і твая справа тут камусьці патрэбны. І даволі складана потым пераадолець гэтую дэпрэсію — кажа Гайдалёнак.

Мяркуючы па тым, што „Свабодны тэатр”, а цяпер „Крылы халопа”, гастралюе па розных краінах, гэтая дэпрэсія ў іх больш-менш паспяхова пераадольваецца.

Паводле Гайдалёнак, іх тэатру вельмі адпавядае цяперашняя назва — гэта вобраз халопа, які адрошчвае сабе крылы, каб прыўзняцца над зямлёй, стаць крыху вышэй, лепей, чысцей. Акрамя таго, менавіта „Крылы халопа” называўся адзін з першых чорна-белых беларускіх фільмаў.

Аднак брэсцкія „Крылы халопа” гэта яшчэ і незалежная культурная прастора. Паводле інфармацыі на сайце тэатра, прастора „Крылаў халопа (КХ) — гэта пляцоўка для адукацыйнай, прэзентацыйнай, даследчай працы і камунікацыі ў галіне тэатра, сучаснага мастацтва, нефармальнай адукацыі. Галоўнымі мэтамі ў гэтым накірунку КХ вызначае прысутнасць беларускага і замежнага сучаснага мастацтва ў публічнай прасторы Брэста, падтрымка крытычнага і актуальнага мастацтва, у тым ліку праектаў, накіраваных на інклюзію „выключаных” па розных прычынах мастакоў, стварэнне пляцоўкі для міждысцыплінарнага дыялогу, лакальнай і міжнароднай супрацы, удзел у беларускіх і міжнародных праектах выставаў”, — адзначаецца там.

❖ Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

## 40 гадоў з дня смерці

# Янкі Геніюша

Асоба грамадскага дзеяча Янкі Геніюша недаацэнена беларусамі з розных прычын. Па-першае, таму, што ў нас дагэтуль не шануецца бальшыня нацыянальных дзеячаў. Па-другое, на яго вельмі працяглы час навешвалі ярлык калабаранта. Патрэцяе, таму што Іван Пятровіч дагэтуль як бы знаходзіцца ў ценю сваёй жонкі — Ларысы Геніюш, вялікай беларускай паэткі і патрыёткі.

Нарадзіўся Янка Геніюш 24 лютага 1902 года ў мястэчку Крынкі. Пасля сканчэння школы паехаў вучыцца ў Прагу. Паступіў у знакаміты Карлаў універсітэт, рэкамендацыю на атрыманне стыпендыі яму даў Браніслаў Тарашкевіч. Пасля заканчэння ўніверсітэта атрымаў медыцынскую адукацыю доктара-венеролага. У 1935 годзе ажаніўся з Ларысай Міклашэвіч. У той самы год у іх нарадзіўся адзіны сын Юрка Геніюш. Менавіта Янка Геніюш далучыў Ларысу да беларушчыны: першым даў ёй беларускія кніжкі, чытаў нарачонай вершы Купалы, расказваў пра беларускую гісторыю.

Янка Геніюш сябраваў з многімі беларускімі дзеячамі, што жылі ў Празе, у тым ліку і з кіраўніцтвам БНР. Быў актыўным сябрам Пражскага камітэта Беларускай народнай самапомачы. У час нямецкай акупацыі на беларускім сходзе Геніюш адмовіўся падпісаць тэлеграму да Адольфа Гітлера. Аднак несумленны палітык Іван Ермачэнка падрабіў пад капірку подпісы ўдзельнікаў сходу і даслаў тую тэлеграму. Пазней гэтая тэлеграма трапіла ў Маскву і на яе падставе Янка Геніюш апынуўся перад савецкім судом.

У 1943 годзе Янка Геніюш трапіў у Беларусь, пасяліўся ў Слоніме. Працаваў кіраўніком раённага аддзела аховы здароўя. Пасля канфлікту са слонімскім гебіткамісарам Эрнам (Геніюш запытаўся ў таго, хто на гэтай зямлі гаспадар), яму давялося пераехаць у Баранавічы. Ад горшых наступстваў яго выратавала „слава” падпісанта тэлеграмы да Гітлера. Пасля вайны Янка Геніюш пастанавіў застацца ў Празе. Ён наіўна спадзяваўся, што Чэхаславакія будзе самастойнай дзяржавай і сям’і нічога не пагражае. За гэтую памылку давялося дорага заплаціць пазней.

У 1948 годзе, калі Геніюшы жылі ў Празе, Янка з Ларысай былі арыштаваны і вывезены ў Савецкі Саюз. Абое былі незаконна пазбаўлены чэхаславацкага грамадзянства і засуджаны Вярхоўным судом БССР да 25 год зняволення ў савецкім канцлагеры. Частку тэрміну Янка Геніюш адбыў у сумнавядомай Варкуце. Пасля скання Сталіна ў 1953 годзе пераведзены ў Мардовію.

Сям’я Геніюшаў была датэрмінова вызвалена ў 1956 годзе. Аднак ім не дазволілі вярнуцца ў Чэхаславакію. Геніюшы пасяліліся ў Зэльве ў хаце бацькі Янкі па вуліцы Савецкай, 7а. У Зэльве Геніюш уладкаваўся працаваць у мясцовы шпіталь і паліклініку. У яго кабінеце быў размешчаны партрэт Францішка Скарыны. Геніюш добра разбіраўся ў неўралогіі, сексалогіі, венерычных хваробах. Працаваў хірургам і тэрапеўтам, хоць саветы вельмі доўга не хацелі прызнаваць яго чэшскі дыплом.

У Зэльву ў госці да Геніюшаў часта прыязджалі былыя палітзняволеныя і літаратары: Мікола Канаш, Пятро Рашэтнік, Іван Дутка, Уладзімір Караткевіч, Алег Лойка, Алесь Траяноўскі ды іншыя.

Памёр Янка Геніюш пасля хваробы на руках жонкі 19 лютага 1979 года. На яго пахаванне з’ехалася шмат людзей. Андрэй Вайтовіч са Слоніма зрабіў па ім помнік. Пасля смерці Ларысы Геніюш на магіле паставілі новы, агульны помнік. Штогод у Зэльву прыязджаюць цяперашнія беларускія патрыёты ўшанаваць Янку і Ларысу Геніюшаў.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

паніхіду, на каторай пяялі вучыцелі і вучні з Грамады моладзі”.

Гэта сама газета „Незалежная Беларусь” пісала, што Вольга Якуцянка ўсе свае сілы аддала беларускім дзецям і памерла яна за беларускіх дзяцей, дабіваючыся для іх роднай школы. Сёстры і браты Вольгі Якуцянкі засталіся адны, засталіся „на ласцы Божай”. Беларускія настаўнікі і вучні з Гарадзеншчыны і Віленшчыны пачалі збіраць сродкі для сірот. І гэтыя сродкі перадавалі малодшым сёстрам і братам Вольгі, якія засталіся адны. Быў у „Незалежнай Беларусі” апублікаваны і спісак усіх тых, хто ахвяраўваў для дзяцей сродкі. Напрыклад, Янка Станкевіч даў 20 рублёў, Аляксей Майніч — 1 рубель, Аляксандр Гайка — 2 рублі, Тамаш Грыгаровіч — 10 рублёў, Марыя Даноўская — 2 рублі, Марыя Давідовіч — 5 рублёў, Юля Давідовіч — 5 рублёў, Мікола Гунько — 5 рублёў, Язэп Райчонак — 5 рублёў, Анастася Лубнеўская — 3 рублі, Канстанцін Хвалько — 5 рублёў, Мікола Антонаў — 5 рублёў, Сяргей Урбан — 50 капеек і г.д. Усяго на бяду сям’і Вольгі Якуцянкі адгукнуліся больш за 60 чалавек, якія ахвяравалі, хто колькі мог грошай.

Як склаўся лёс малодшых сясцёр і братоў Вольгі Якуцянкі з Вароняга Луга невядома. Магчыма, хто з праўнукаў і ўнукаў дажыў да сённяшніх дзён і адгукнецца на гэту публікацыю. А магчыма ўжо нікога няма. І ці захавалася дзе сама магіла Вольгі і яе бацькоў, таксама цяжка сказаць. Усё ж прайшло з таго часу ўжо адно стагоддзе.

Сяргей ЧЫГРЫН




Віктар ШВЕД

## У паклоне

Мелі супольных многа мар,
Спраў розных здзейснілася смела!
Ён — старшыня, я — сакратар
Варшаўскага БГКТ аддзела.

Колькі прынесла суму нам
З Юрым Туронкам развітанне.
Ён Бацькам быў усім сябрам
У беларускім выхаванні.

Таксама Васіль Петручук
Пакінуў назаўжды свет гэты.
«Белавежы» ён сябрук
І апусцеў яго палетак.

Крыху яшчэ славутых ёсць
Пісьменнікаў белагаловых.
Кожны на свеце толькі госць.
Хто з нас становіцца чарговым?

Беласток, 12 лютага 2019 г.

## СПАЧУВАННІ

Словы шчырага спачування
**Дзмітрыю Шатыловічу** па прычыне
напаткаўшага Яго гора — смерці жонкі **Ніны**

ад сяброў з «Нівы», «Белавежы» і чытачоў

## Адгаданка

**1.** Ноеў карабель, **2.** меншы ад тэрцэта, **3.** Рычард, амерыканскі прэзідэнт ў пачатку 1970-х гадоў, **4.** частка псалтыра, **5**. каталіцкі манастыр, **6.** галаўны ўбор конусападобнай формы, **7.** збруя пад кавалерыстам, **8.** лёгкая лодка для катання на лёдзе, **9.** дзяржава з Ідлібам, Халебам і Хомсам, **10.** фізіялагічнае існаванне ўсяго жывога, **11.** не шах і не пат, **12.** каша з аўсяных круп, **13.** пара года з Вялікаднем, **14.** брахучая жывёла.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | 2 | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | 3 | | | 4 | |
| 5 | | | 6 | | | 7 | | | | 8 | | 9 | | |
| 10 | 11 | | | | | | | | | 12 | | | | |
| | | | | | 13 | | | | | 14 | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 4 нумара**
Магіла, свіран, ямб, туз, доля, чало, елка, род, матор, баец, Ельцын, дах, Рабле, Сумы.
Рашэнне: **Галоднаму чорны хлеб здаецца белым**.
Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 24.02 — 01.03

**(22.03. — 20.04.)** 25-28.02. маеш шанцы на прафесійныя поспехі, толькі трымайся рэалій. Некаторыя справы будуць ісці з цяжкасцямі, ды ўсё ж — уперад. Старайся нічога не падганяць, будзь цярплівым. У кожнай сітуацыі разлічвай на сяброўства. Пазнаёмішся з новымі людзьмі; прыглядзься і сабе.

**(21.04. — 21.05.)** 24-25.02. пашукай добрых фінансавых нагод. 24-26.02. палагодзіш канфлікты паміж блізкімі, спалучыць вас нейкая файная падзея ў сям’і. Але могуць прытрапіцца скандалы ў пары. 24-28.02. мілы візіт у сям’і. 24-26.02. на працы нєспадзяваны сход ці нарада. 24-28.02. можаш апынуцца ў тупіку.

**(22.05. — 22.06.)** Калі трапіш на свайго «экс» — не будзе гэта выпадак. Дробных выдаткаў больш, але большых рэчаў не купіш. Не дайся вірусам. Вырашэнні разам з партнёрам будуць найбольш адпаведныя. Калі станеш на раздарожжы, выбірай найбольш развойны напрамак. Не азірайся назад. Выберыся з каханай асобай у падарожжа. Добры час на рэабілітацыю, добры сон, дыету.

**(23.06. — 23.07.)**. Выйдзі 24-25.02. да людзей. 24-28.02. на адпаведную асобу натрапіш не адразу. 24-28.02. з’ездзі да далёкіх сваякоў. Можаш зарэгістраваць сваю фірму. Усё, што цяпер будзеш рабіць, будзе трывалае і прынясе доўгатэрміновыя прыбыткі. 24-26.02. папрасі ў шэфа павышэння; калі не дасць, дасць штосьці іншае. Дай волю інтуіцыі і проста імправізуй. Будзь асцярожны з грашыма (з-за нечаканых падзей можаш больш страціць, чым здабыць).

**(24.07. — 23.08.)** 24-26.02. пагавары ў пары пра пачуцці. Не заўжды можаш палягаць выключна на сабе (можаш страціць, або здабыць усё). З сябрамі і раднёй супольнымі сіламі знойдзеце рашэнне. З грашыма ненайлепш (могуць табе іх не вярнуць), або каштоўную пакупку адкладзі на пасля. Не апускай дыеты і дысцыпліны.

**(24.08. — 23.09.)** 24-25.02. аплаціцца табе інвеставанне ва ўласны выгляд. Купі новы строй. Паляпшэнне іміджу павялічыць шанцы на павышэнне. Добры настрой. Разменьваючыся на дробнае, можаш пагрузіцца ў хаос. Пастаў на шчырасць з сябрамі. Пазнаванне цікавых людзей і адкрыванне шматабяцальных перспектыў.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш непатрэбна пераймацца 24-28.02. Твае дзеянні будуць размашыстымі і адважнымі. 24-25.02. паявіцца нєспадзяваны шанц — пакарыстайся. 24-26.02. прымай удзел у канферэнцыях, абучэннях, інтэграцыйных імпрэзах. Шмат новых ідэй, цяга да навінак. Ідэальны час на падарожжа (нават у цяплейшы клімат).

**(24.10. — 22.11.)** Запамятаеш увесь люты як час поўны шалёных прыгод і нечаканых здарэнняў. 24-25.02. нават непрыхільныя раней людзі глянуць на цябе мілей. Скончыце спрэчкі, даруеце правіны і пачняце ўсё аднова. Пераканаешся, што сапраўднае каханне — цярплівае. Абавязкова ігрáй у латарэю! Могуць табе таксама вярнуць нейкія грошы, можаш атрымаць штосьці ў спадчыну ці ў падарунку. Нагоды на лёгкі прыбытак.

**(23.11. — 22.12.)** Без праблем пераможаш усе перашкоды лёсу, а твой кашалёк напоўніцца. Больш часу аддай сям’і. Кантактуйся з жывымі, вясёлымі, дасціпнымі людзьмі. Тое, што было падзаробкам, можа стаць пастаяннай крыніцай (шмат прапаноў).

**(23.12.—20.01.)** Пераможаш кожную перашкоду. 23-24.02 атрымаеш шанц развою, павышэнне кваліфікацый, службовай паездкі. 24-28.02. сарганізуй сямейны з’езд. 23-27.02. твае ідэі і задумы хораша прададуцца.

**(21.01. — 19.02.)** Дасканалая форма. У любоўных заваёвах будзеш ісці крок у крок з Казановай! Звышапякунчасць бацькоў (асабліва калі жывеш ад іх далёка; нават калі ты дарослы, хочуць нацешыцца табою як найдаўжэй)! Інвестуючы, не сыходзь з абранай дарогі, спакойна і цярпліва. Пачуццё матэрыяльнай бяспекі. Прымяні дэтаксікацыю сваёй пячонкі, можаш сесці на галаднейшую дыету. Зайдзі да касметолага.

**(20.02. — 21.03.)** 24-26.02. пазнаёмішся з сябрамі сваіх сяброў. 25-27.02. удасца табе выблытацца з праблем. Адважныя прыёмы. Мілая кампанія. У апошнія дні месяца высокая тэмпература ў спальні. Выезд або інтэграцыйная імпрэза 25-27.02. вельмі ўдалыя. Сонца дадасць табе сілы. Больш засяродзішся на сабе (а не на перашкодах) і пачнеш хадзіць сваімі дарогамі. 25-27.02. добрыя весткі ад кагось, кім турбуешся.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Афіны ўдзень і ўначы

— Цікава ці грэчаскія прыбіральшчыцы ведаюць англійскую мову? — думалі мы ўголас, глытаючы касмапалітычную аўру Афінаў. Здавалася, кожны сталічны грэк, без выключэння валодае англійскай мовай. Таму спыталі пра нешта ў цёткі, якая прыцірала анучкай парэнчы электрычнай лесвіцы ў метро. Жанчына ўсё толкам паясніла і нават не адарвала вачэй ад свайго занятку. Англійская мова ляжала ў яе вуснах так натуральна, як польская ў беластоцкіх беларусаў...

Адначасова між сабой грэкі размаўлялі выключна на роднай мове. У кожным аўтобусе ці таксі шафёр ставіў на ўсю катушку грэчаскія сольныя балады пад акампанемент дуды ці ліры. Англійская мова перш за ўсё тут асацыявалася з працай і ветлівасцю. Для людзей, якія зараблялі на турыстах, не замінала шматмоўе, наадварот, кожны ведаў яшчэ некалькі слоў па-французску ці па-расейску. Мяне з дачкой чамусьці грэкі палічылі расіянкамі. Насустрач ляцелі прывітанні з шырокімі ўсмешкамі: *Здравствуйте красавицы!* А ўжо цалкам адчулі мы сябе прыгожымі і багатымі, калі ў гандлёвым пасажы, нас, «расіянак», намаўлялі наведаць эксклюзіўны буцік з футрамі.



У такіх хвілінах чалавек думае пра польскую адукацыю і стаўленне да замежных моў. Мала хто ў нас вывучыў англійскую мову без рэпетытарства і дадатковых курсаў. Да таго яна быццам патрэбная толькі маладым. А грэкі вывучаюць яе ў кожным узросце. Веданне мовы гэта не толькі камфорт у камунікацыі з іншаземцамі:

— Калі б я не ведаў англійскай мовы, — скажа нам саракагадовы Дымітрыёс, — дык застаўся б апошнім бамжом, на пенсіі для беспрацоўных.

Дымітрыёс вёў мініяцюрную кафэшку і сам кожны дзень рыхтаваў нам смачныя фальфавелі і гырасы. У міжчассі ён падпяваў грэчаскія балады і зажэртa сварыўся па-турэцку з сантэхнікам.

— Вось, гэта культура! — паўтаралі мы, ашаломленыя яго лінгвістычнымі і кулінарнымі талентамі.

* * *

Праўда, калі гаварыць пра эстэтыку Афінаў, дык яна часта прыводзіць у одум. Гэта з-за кантрастаў і разнавіднасці ўсякай усячыны. У вочы адразу кідаюцца дзіравыя, неахайныя тратуары. Але ж яны з сапраўднага мармуру! Яшчэ больш здзіўляюць пакінутыя будынкі-вампіры, прысуджаныя на знішчэнне. Яны нярэдка ў самым цэнтры, пад Акропалем. Глядзіш на гэты дэструктыўны вобраз і толькі паціскаеш плячыма. Бо навокал красуюцца пальмы і аранжавыя дрэўцы са спелымі пладамі. Афіны ўтульныя для багатых і бедных. Далей ад цэнтра цэны прадуктаў і паслуг нярэдка ў тры разы меншыя. Калі мы аднойчы заблукалі ў індускі квартал, на вуліцы панаваў гоман натоўпу і беспарадак як у Дэлі. З кафэшак далятаў востры пах карыцы. Здавалася, за момант нехта наедзе на плечы матацыклам. Пасля, калі мы апынуліся на суседняй вуліцы, усё раптоўна перамянілася. Мы ступілі на мармуровы тратуар, абстаўлены кветніцамі і лаўкамі для адпачынку. Ніхто тут не спяшаўся, не трубіў у плечы, не заставіляў хадзіць гуськом па калках.





Афіны — горад, які ніколі не засынае. У нашым квартале пры станцыі метро Керакамос зрух пачынаўся вечарам. Сюды з усяго горада цягнулі аматары начных гулянак, дыскатэк. Бушавала вуліца. Цягам адной гадзіны тут можна сустрэць людзей з дваццаці краін свету. У адзін вечар мы пазнаёміліся з немцамі, шведамі, кітайцамі, балгарамі ды спявачкай з Сенегала. Апошняя, у знак ведання прынцыпаў міжнароднай тусоўкі, усклікнула на прывітанне: *Лех Валенса!* Ну і прыцягнулі мы за сабой гісторыю!

Адначасова здзіўляў метамарфоз начных клубаў і рэстаранаў. Раніцай у нядзелькі выседжвалі тут сем'і з дзеткамі ды ласаваліся салодкай баклавай.

* * *

У Афінах здзіўляла не толькі паўсюднае веданне англійскай мовы сярод прыбіральшчыц. Дзевяць гадоў таму ў час першай маёй пабыўкі не было такога. У вочы кінуўся працэс аднаўлення Акропаля. За гэты час амаль поўнасцю завяршылі рэканструкцыю Партэнона. Змяніўся неяк і састаў турыстаў. Паколькі раней тут праходжваліся мажныя амерыканцы, дык зараз у вочы кідаліся непаседлівыя кітайцы. Яны ўвесь час лезлі на недазволеную прастору, каб зрабіць селфі. З-за гэтага на Акропалі ўвесь час гудзелі свісткі, з дапамогай якіх парадковыя службы заклікалі да парадку.

Змяніўся і звярыны краявід. Раней між старажытнымі руінамі круціліся бяздомныя сабакі (усе яны былі дагледжаны і накормлены). Зараз міфічны ўзгорак апанавалі пародзістыя каты, перад якімі ўвесь час прыкланяліся турысты, гладзілі іх пышную поўсць і шкадавалі.

Знак часу відавочны і ў паслугах. Зараз квіток на Акропаль можна набыць праз тэлефон. Праўда, цана, як і ўсё ў цэнтры Афін, узрастала ў тры разы. На шчасце, грэкі любяць таграваццa. Мне, на здзіўленне нашай кампаніі, пашанцавала старгаваць сувеніры за цану ў тры разы меншую!

Раней я нават не падазравала, што ў мяне талент гандляркі.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 08